


Пятро ПРЫХОДЗЬКА

# ПЕРАМОГА

Мы помнім:
Яснейшымі сталі прасторы
Ад весткі, што ўсю абляцела зямлю.
Пачулі і людзі, і пушчы, і зоры
Велічнай славы ўрачысты салют.

Пачулі салдаты ў далёкіх дарогах,
І дзеці, што з фронта чакалі бацькоў,
Агністае слова адно —
Перамога!
Мільёны людзей абдымалі байцоў,

На плошчы ішлі
Без канца і без ліку,
Прынасілі ў сэрцах падзяку сваю
За сілу, за мужнасць,
За подзвіг вялікі
Таму, хто адважна змагаўся ў баю.

Вялікаму Сталіну неслі падзяку,
Партыі нашай,
Байцам радавым,
За тое, што мір адстаялі ў атаках,
Прынеслі свабоду народам усім.

І сёння ідуць к нам
З Варшавы і Прагі,
З Пекіна, з далёкіх і блізкіх краёў,
Каб мужнасць у нас пераняць і адвагу —
У былых партызанаў,
Гвардзейцаў — байцоў.

А ён, пераможца,
Над плошчай Берліна
Дзяўчынку маленькую ўзняў на руках.
Яго не забудзе ніколі Айчына,
І слава аб ім
Будзе жыць у вяках!



Камітэт комсамола 4-й сярэдняй школы гор. Мінска абмяркоўвае заяву
аб прыёме ў комсамол аднаго з лепшых вучняў VII «В» класа Юрыя Тэадаровіча.

Фота В. Вяхоткі.


# МАЛАДОСЦЬ

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

Літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс
Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.
№ 2. Май, 1953 год.

# СВЯТА ВЯСНЫ І МАЛАДОСЦІ

На дварэ вясна, трыццаць шостая савецкая вясна. Усюды многа сонца, радасці, чароўных вясновых гукаў. На дварэ—Першамай. Сярод свежай зелені нашых паркаў і сквераў мільгаюць святочныя вясновыя гарнітуры вясёлых і жыццерадасных юнакоў і дзяўчат, на стадыёнах — майкі розных колераў, але толькі яркіх колераў, толькі вясновых.

Моладзь разам з дарослымі выйшла на вуліцы, на плошчы. Шумлівай, гаманкой моладдзю запоўнены ўсе месцы, дзе ёсць сонца, дзе ёсць майская зелень і майскія кветкі. А перад гэтым усе савецкія людзі, ад старога да малога, былі на першамайскіх дэманстрацыях. І ў тую ўрачыстую гадзіну, калі мінскія юнакі і дзяўчаты, рабочыя фабрык і заводаў, служачыя, студэнты, школьнікі праходзілі каля святочных урадавых трыбун, адбываліся дэманстрацыі па ўсёй рэспубліцы, па ўсёй савецкай краіне. У тую ўрачыстую гадзіну моладзь сталіцы нашай Радзімы — Масквы праходзіла па Краснай плошчы, каля Маўзалея Леніна і Сталіна, паўз трыбуну, дзе ў час усіх папярэдніх першамайскіх дэманстрацый стаяў вялікі правадыр савецкага народа таварыш Сталін. Цёплымі бацькоўскімі вачыма ён глядзеў на моладзь, на юнае пакаленне будаўнікоў комунізма і бадзёра, упэўнена вітаў іх прыўзнятай рукой.

Цяпер, ідучы каля Маўзалея і ўрадавых трыбун на Краснай плошчы, маладыя прадстаўнікі нашага грамадства, як і ўсе савецкія людзі, горача віталі верных і стойкіх саратнікаў таварыша Сталіна і давалі ім шчырую клятву — быць цвёрдымі і непахіснымі ў выкананні сталінскіх запаветаў, быць мужнымі і настойлівымі ў самых цяжкіх і складаных абставінах, заўсёды быць палымянымі патрыётамі сваёй соцыялістычнай бацькаўшчыны. І разам з масквічамі такую клятву давалі працоўныя Мінска, Кіева, Тбілісі, Рыгі, Каунаса, усіх гарадоў і сёл краіны соцыялізма.

У прадсвяточныя дні ўсе з натхненнем, з маладой энергіяй працавалі. Прадмайскае соцыялістычнае спаборніцтва ахапіла ўсю нашу краіну. Моладзь у гэтым спаборніцтве займала не апошняе месца. Гэта пацвярджалася фактамі з прадпрыемстваў і калгасаў нашай рэспублікі. На прадмайскай стаханаўскай вахце стаялі маладыя ліцейшчыкі Гомельскага станкабудаўнічага завода імя Кірава, маладзёжныя калектывы гігантаў індустрыі рэспублікі — аўтамабільнага і трактарнага заводаў, моладзь Мінскага тонкасуконнага камбіната, маладыя хлебаробы калгасаў Бабруйшчыны і Магілеўшчыны, механізатары машынна-меліяратыўных станцый Палесся. У час дэманстрацый моладзь рапартавала аб сваіх дасягненнях у гэтым усенародным спаборніцтве. І, адзначаючы поспехі ў сваёй рабоце, упэўнена, па-гаспадарску глядзела на свае задачы ў далейшым.

Немалыя задачы стаяць перад савецкім народам, перад усёй нашай моладдзю ў гэтую вясну. Яна з'яўляецца вясной трэцяга года пятай сталінскай пяцігодкі — першай вясной пасля гістарычнага XIX з'езда Комуністычнай партыі Савецкага Саюза, пасля выхаду ў свет геніяльнай працы таварыша Сталіна «Эканамічныя праблемы соцыялізма ў СССР», працы, якая праклала ясныя шляхі ад соцыялізма да комунізма. Новыя прадпрыемствы, новыя кварталы ў гарадах павінны з'явіцца ў нашай рэспубліцы ў гэтую вясну. Калгасы нашы павінны зрабіць цяпер усё неабходнае для таго, каб у гэтым годзе ў нас быў самы высокі ўраджай збожжавых, каб было многа кармоў для жывёлы, каб добра ўрадзілі нашы сады. А што цяпер робіцца на Палессі! Туды кінута навейшая тэхніка, сотні меліяратыўных брыгад бесперапынна вядуць барацьбу са спрадвечнай багнай, ператвараючы яе ва ўрадлівыя землі.

Комсамольцы і ўся несаюзная моладзь Беларусі добра ведаюць, што для таго, каб выканаць гістарычныя рашэнні XIX з'езда партыі, для таго, каб быць да канца вернымі запаветам вялікага Сталіна, трэба працаваць не пакладаючы рук, ні на адну хвіліну не спыняцца на дасягнутым, заўсёды быць у авангардзе соцыялістычнага спаборніцтва, няспынна аваладваць перадавой тэхнікай і ўдасканальваць метады вытворчасці, вучыцца і вучыцца.




З плаката Л. Замаха.

У тую ўрачыстую гадзіну, калі мінскія маладзёжныя калектывы праходзілі паўз урадавыя трыбуны, дэманстравалі свае працоўныя дасягненні, ішла ў калонах дэманстрантаў і рапартавала аб сваіх поспехах моладзь усіх братніх рэспублік Савецкага Саюза. Першамайскія рапарты ў гэты дзень вымаўляліся на ўсіх мовах народаў нашай краіны. І калі рапартаваў беларус, то ён меў на ўвазе і тое, што зрабіў да свята яго брат украінец ці грузін, калі-ж рапартаваў украінец, то ўлічваў працоўныя намаганні беларуса. Без самай шчыльнай, брацкай дружбы народаў СССР, без штодзённай бескарыслівай дапамогі вялікага рускага народа немагчымы былі-б ніякія поспехі працоўных Беларусі, многія справы аказаліся-б не пад сілу аднаму беларускаму народу. Выхаваная ў духу ленінска-сталінскіх ідэй пролетарскага інтэрнацыяналізма, моладзь Беларусі ведае, што паспяхова і ўпэўнена крочыць наперад можна толькі ў нагу і плячо ў плячо са сваімі братамі. Гэта стала ўжо традыцыяй у нашым жыцці. Калі ўзнікла ідэя пабудовы буйнай электрастанцыі на возеры Дрысвяты ў Полацкай вобласці, дык было вырашана будаваць яе не аднаму-двум калгасам нашай рэспублікі, а калгасам трох рэспублік: Беларускай, Літоўскай і Латвійскай. Будаўніцтва гэтае ідзе вельмі паспяхова. Меліяратыўныя работы на Палессі вядуцца таксама не адны́мі беларусамі. Найбольш значныя мерапрыемствы праводзяцца там сумесна з украінцамі, пры штодзённай дапамозе рускага народа. Гэта — бясспрэчная ўмова поспехаў. А колькі прадпрыемстваў нашай рэспублікі вядуць дзейснае спаборніцтва з прадпрыемствамі суседніх рэспублік? Віцебскі завод заточных станкоў, напрыклад, ужо даўно спаборнічае з Новавільненскім станкабудаўнічым заводам «Жальгірыс». У прадмайскі перыяд гэтае спаборніцтва дало асабліва добрыя вынікі. План 1953 года завод «Жальгірыс» абавязаўся выканаць да 21 снежня і, мяркуючы па ходу спраў у апошнія тыдні, калектыў завода справіцца з гэтай задачай.

Многа такіх прыкладаў можна было-б прывесці. І чым далей, тым прыкладаў гэтых будзе ўсё больш і больш, і вынікі іх будуць натхняць нашу моладзь на новыя поспехі.

У тую ўрачыстую гадзіну, калі моладзь савецкай краіны бадзёра крочыла ў першамайскіх калонах, у той незабыўны дзень, калі яна святкавала свой Першамай, перадавая моладзь зарубежных краін таксама выйшла на вуліцы з чырвонымі сцягамі. Яна выйшла для таго, каб прадэманстраваць сваю міжнародную салідарнасць, і ў першую чаргу сваю салідарнасць з народамі вялікага Савецкага Саюза ў барацьбе за мір ва ўсім свеце, у барацьбе за сваё лепшае будучае.

Мы ганарымся тым, што цяпер ужо ў многіх зарубежных краінах моладзь свабодна і адкрыта святкуе дзень Першага мая, дэманструе свае працоўныя поспехі, сваю салідарнасць з другімі народамі, на ўвесь голас спявае першамайскія песні, весяліцца, адпачывае. Такія магчымасці поўнасцю забяспечаны ў краінах народнай дэмакратыі, у Кітайскай Народнай Рэспубліцы. Іншая справа ў капіталістычных краінах, дзе першамайскія выступленні прагрэсіўнай моладзі, яе выступленні за мір, супраць падпальшчыкаў вайны, звязаны з рызыкай для жыцця, дзе магнаты імперыялізма, сучасныя фашысты душаць і знішчаюць усё жывое, усё тое, што імкнецца да святла, да свабоды.

Паслядоўная палітыка міру і дружбы паміж народамі, якую праводзяць наша партыя і ўрад, гарачая падтрымка гэтай палітыкі моладдзю і ўсім народам краін народнай дэмакратыі, моладдзю і ўсім народам Кітая, дапамогуць лепшым людзям капіталістычных краін адстаяць сваю праўду, абвуздаць падпальшчыкаў вайны і, такім чынам, зрабіць вялікі ўклад у пачэсную справу барацьбы за мір ва ўсім свеце.

Светлы дзень Першага мая, свята вялікай міжнароднай салідарнасці, свята вясны і маладосці плённа садзейнічала і будзе заўсёды садзейнічаць гэтай неацэнімай па сваіму значэнню справе.

Няхай жыве сонечны, радасны Першамай!

Няхай жыве 1 Мая — дзень міжнароднай салідарнасці працоўных, дзень брацтва рабочых усіх краін!

Кастусь КІРЭНКА




# Вясновае

## МАЙ

У зяляніне — даляў роўнядзь.
Заліты сонцам небакрай.
І сад зацвіў, і на далонях
Бурштын расы, што кветкі роняць.
Гэта — Май.

У сэрцы цесна песні стала...
Што-ж, дай ёй крыллі, не трымай!
Дзяўчына-ж хлопца пакахала,
І сёння ёй і крылляў мала.
Гэта — Май.

З усёй зямлёю сэрца ў лёце, —
Працуй, шчаслівы свет ствarай,
І думкам весела ў рабоце,
І радасць свеціцца ў турбоце.
Гэта — Май.

А ў дзень святочны кліча маці
Арлёнка-сына: паспяшай!
Гамоніць вуліца, і ў хаце
Спявае ўсёй вясны багацце.
Гэта — Май.

І радасць коціцца нястрымна.
Вышэй-жа сцяг свой падымай!
Ідзе па краі з родным гімнам,
Ідзе з салютам — зараз грымне
Шчаслівы Май,
Савецкі Май.

* * *

Ты ўспомніш нейчы спеў, што на зары
Калісь пачуў, блукаючы ў лясах,
Ці плёскат лёгкіх вёслаў на Сажы,
Якім будзіў калісь карасцялёў, —
І гэтага ўжо хопіць, каб стары
Сум па зялёных сцежках і шляхах
Грымотным звонам першых капяжын
Гукнуў цябе да пушчаў і палёў.

Зямля, дзе нарадзіўся ты і ўзрос,
Раскінулася ўсцяж перад табой,
З маладзіком начэй і з ясным днём,
Што зліты ў дзіва светлае адно.
Салодкім сокам пахне ад бяроз.
Палі прачаўралі перад сяўбой.
А пчолы звонка кружаць над вуллём
І пасечніка клічуць праз акно.

А пройдзе дзень яшчэ, міне другі, —
І колькі край наш выявіць красы!
І зноў запомніш ты на многа год,
Што сам рабіў і захапляўся чым,
І як наладжваў трактара плугі,
І як збіраў у песню галасы,
І як вітаў пшаніц, аўсоў усход
З сваім вялікім краем дарагім...

## СОНЦА ЎСХОДЗІЦЬ НАД РАКОЙ

Сонца ўсходзіць над ракой —
Хоць вазьмі яго рукой.

Толькі я яго не брала:
Белу свету аддавала,
Полю з лесам, лугавінам,
Сінім рэкам і далінам,
Жыту буйнаму і краскам.
І ўсяму быў мой прывет:
Хай пад сонечнаю ласкай
Харашэе белы свет!

Сонца ўсходзіць над ракой —
Правяду яго рукой.

Але ёсць другое сонца:
Ходзіць міма ля аконца,
Ходзіць часта — ўсе глядзяць,
Ходзіць блізка, ды не ўзяць.

Каб змагла — дык сонца гэта
Я ўзяла-б навек у света,
Для сваёй-бы яснай долі
Поўным сэрцам узяла
І нікому і ніколі
Ні за што-б не аддала!

## ПЕРАД РАЗВІТАННЕМ

У сад зялёны, ў лісцяў гушчыню,
Табе, сяброўка, вокны расчыню.
Паслухай, як шуміць вялікі горад,
Дзе мы жылі аж пяць студэнцкіх год,
І ўспомні, што ён нас праводзіць скора
Куды каго — у маладзы палёт.

Куды каго... А я-б хацеў нанова
Усё прайсці — адну-б пуцёўку нам...
Што-ж ты не кажаш у адказ ні слова!
Што адыйшлася раптам ад акна!..

## З ВЫРАЮ

Я веру: там, за морам, журавы
Пад сонцам поўдня мараць аб азёрах,
Што кінулі ў паўночным краі. Ім
Начамі сніцца закут лугавы,
А на зары паўночных даляў зоры
Ад сну іх будзяць шэлестам сваім.

І чуецца ім пах радзімых гнёзд,
Відаць азёрны краявід прадвесня.
Інакш чаму-ж праз столькі тысяч вёрст
Не патухае іх звароту песня!
Ляціць дамоў птушыная сям'я,
І нам заўжды чамусьці прад вачыма
Зноў паўстае — уся, навек свая
Вялікая — як маці ўсім — Радзіма.

## НЕЗДАРМА

Нездарма ў барах, на ўзлесках,
Нездарма
Сінь рассыпалі пралескі,
Нездарма.

Нездарма ты іх збірала,
Нездарма
Шчырай песняй сагравала.
Нездарма.

Пэўна ў шчасці сустракала
Ты вясну:
Нехта сэрца — каб спявала —
Ўскалыхнуў.

Даў табе лятунак светлы,
Залаты,
А хто быў ён — знаеш гэта
Толькі ты.

## РАСІНКА

Апала расінка з туману
На першы лісточак кляновы
І стала пад сонцам уранак
Жывым самацветам вясновым.

Паўднёвыя, цёплыя ветры
Трубілі ў святочныя трубы,
З лістка дарагі самацвет той
Зляцеў на дзявочыя губы...

У думках аб шчасці — я знаю —
Ў той дзень ты мяне цалавала.
І, мусіць, расінка вось тая,
Як іскра, мне ў сэрца запала.

Запала як іскра малая,
А стала там вогненным морам,
Дзе сонца без спыну палае,
Дзе бура калыша прастору.

І з тое часіны праз годы
Няма мне спакою, прыпыну,
Чакаю, гукаю заўсёды
Цябе, маю казку-дзяўчыну.

Не выліцца ў песні замоўнай,
Сяброўка, майму непакою,
Пакуль не раздзеліш пароўну
Агня майго сэрца са мною.

Пакуль не раздзелім пароўну
Уполеч на сцежцы жыццёвай
І смутку, дзе радасці поўна,
І шчасця — з тугою вясновай!

## НА МАРШЫ

Як добра зноў адчуць сябе на маршы!
Шынель у скатцы, фляга пры баку.
Прастор вясны
Бадзёраць песні нашы.
Дзень добры, лес, дзень добры, кліч
«ку-ку»!

Дзе ні ідзем —
усюды дома быццам.
І горн салдацкі трубіць на зары
З адною марай — каб раслі пшаніцы,
Каб гурукаталі ў полі трактары.

Айчына родная! Жыві і слаўся вечна!
І ўсім кажы: пад сцягам агнявым —
З вясною, песняй
І красой сардэчнай
Сыны твае
на маршы веснавым.

# Памятныя мясціны Ленінграда



**П. КАБЗАРЭУСКІ, В. КАРП**

Фота Г. Канавалава.

Ленін і Сталін! Няма для нашага народа, для ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва больш дарагіх і светлых імён. У гэтых імёнах увасоблена мудрасць і веліч нашай Комуністычнай партыі, сусветнагістарычныя заваёвы Совецкай дзяржавы, што паспяхова будуе комунізм. Гэтыя імёны — сімвал гераічнага служэння справе барацьбы за шчасце працоўных.

Нібы свяшчэнныя рэліквіі, берагае наш народ мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю В. І. Леніна і І. В. Сталіна.

Горад Леніна. Тут геніяльныя правадыры на працягу многіх год вялі кіпучую рэволюцыйную работу. Да гістарычных месц, звязаных з жыццём і дзейнасцю геніяльных правадыроў, прыходзяць юнакі і дзяўчаты, якія выраслі ў шчаслівы, совецкі час, пажылыя людзі, што бачылі дакастрычніцкую няволю.

Ленінска-Сталінскі Комуністычны Саюз Моладзі — верны памочнік Комуністычнай партыі. Самая запаветная мара кожнага комсамольца і комсамолкі, кожнага юнака і кожнай дзяўчыны — быць такімі, як Ленін, як Сталін.

Праходзячы па вуліцах Ленінграда, мы сустракаем на фасадах шматлікіх дамоў мармуровыя дошкі, на якіх высечаны словы, што расказваюць аб вялікіх падзеях, звязаных з жыццём і рэволюцыйнай дзейнасцю В. І. Леніна і І. В. Сталіна. З пачуццём гордасці і любві чытаюць і перачытваюць людзі гэтыя кароткія хвалюючыя надпісы.

«Маленькі і вялікі музей» — так назвалі ўдзельнікі дэлегацыі Кубы кватэру-музей В. І. Леніна ў доме № 17-а па 10-й Совецкай (былой Раждзественскай) вуліцы.

Наведаўшы яго, з асаблівай сілай адчуваеш усю веліч дружбы геніяльных правадыроў рэволюцыі.

Пасля ліпеньскіх дзён 1917 года В. І. Ленін, праследуемы контррэволюцыйным Часовым урадам, знаходзіўся ў падполлі. Шпікі імкнуліся натрапіць на сляды Ільіча. Трэба было ратаваць для партыі, для рэволюцыі дарагое жыццё Леніна. Гэтую задачу выканаў самы блізкі друг і паплечнік Ільіча — І. В. Сталін.

6 (19) ліпеня таварыш Сталін прывёў Ільіча ў дом № 17-а па Раждзественскай вуліцы ў кватэру рабочага С. Я. Алілуева.

Увойдзем у першы пакой. Тут 7 ліпеня праходзіла нарада па пытанню аб яўцы Леніна на суд Часовага ўрада. Таварыш Сталін з усёй рашучасцю выказаўся супраць гэтай здрадніцкай прапановы.

А вось маленькі пакой, у якім пасяліўся Ільіч. Уважліва разглядаюць наведвальнікі невялікі пісьмовы столік, палічку, этажэрку. Усе гэтыя рэчы знаходзіліся ў пакоі, калі жылі тут В. І. Ленін і І. В. Сталін. Вось пісьмовы прыбор, якім яны карысталіся.

У гэты час Ленін напісаў артыкулы: «У абвяржэнне цёмных чутак», «Тры крызісы», «Да пытання аб яўцы на суд бальшэвіцкіх лідэраў», «Палітычнае становішча».

Ноччу з 11 на 12 ліпеня 1917 года з кватэры на Раждзественскай вуліцы В. І. Ленін пры дапамозе таварыша Сталіна пераехаў у пасёлак паблізу станцыі Разліў і праз некалькі дзён пасяліўся ў шалашы за возерам.

Пасля ад'езду Ільіча ў гэтым пакоі працаваў І. В. Сталін. Ён пражыў тут са жніўня да кастрычніка 1917 года. Паміж кватэрай на Раждзественскай вуліцы і шалашом ля Разліва падтрымлівалася непарыўная сувязь. Два разы ездзіў таварыш Сталін да свайго настаўніка і друга.

Музей па 10-й Совецкай вуліцы наведалі многія дзесяткі тысяч нашых людзей і гасцей з розных краін свету: кітайцы, карэйцы, венгры, румыны, малайцы, індусы, кубінцы... Хвалюючыя запісы знаходзім мы ў кнізе кватэры-музея. Раскажам аб некаторых з іх.

Маладыя рабочыя ленінградскай фабрыкі «Адраджэнне» пішуць, што іх глыбока кранула прастата мэбліроўкі пакоя, у якім жылі і працавалі ў імя вызвалення чалавецтва ад прыгнёту і эксплуатацыі геніяльныя правадыры



На здымку: уверсе — **Манумент таварыша Сталіна пры ўездзе ў Ленінград;** злева: **Ленінград. Смольны.**

партыі і народа. «Нам, моладзі, — пішуць яны, — асабліва дарагая і каштоўная гэта кватэра-музей тым, што па яго матэрыялах мы будзем вучыцца да канца змагацца за вызваленне працоўных усяго свету, за перамогу комунізма ў нашай краіне. У гэтыя цяжкія дні, калі няма з намі нашага настаўніка, бацькі і правадыра таварыша І. В. Сталіна, мы клянёмся ў гэтай кватэры, што ніхто не зможа збіць нас са шляху, па якім вёў нас таварыш Сталін. Няхай гэты светлы куток, звязаны з жыццём нашых правадыроў, захаваецца на стагоддзі...»

А вось яшчэ адзін запіс: «Тут мы ўбачылі, як вялікія правадыры і настаўнікі пролетарскай рэволюцыі таварыш Ленін і таварыш Сталін у надзвычай цяжкіх умовах змагаліся супраць сіл рэакцыі і прывялі рэволюцыю да канчатковай перамогі. Мы вучыліся і будзем вучыцца ў Леніна і Сталіна, як абараняць інтарэсы рабочага класа». Гэтыя ўсхваляваныя словы напісалі ўдзельнікі дэлегацыі Усекітайскай федэрацыі працы.

Пасля смерці таварыша Сталіна лік наведвальнікаў кватэры-музея яшчэ больш павялічыўся. Людзі, якія прыходзяць сюды, імкнуцца на ўсё жыццё захаваць у памяці ўсё, што звязана з непахіснай барацьбой таварыша Сталіна за перамогу рэволюцыі, за шчасце народа. 8 сакавіка 1953 года гэтую маленькую кватэру наведала 1 400 чалавек.

На Выбаргскай старане, на праспекце імя Карла Маркса, узвышаецца будынак клуба тэкстыльшчыкаў імя 1 Мая. Кожны вечар у клуб прыходзяць сотні ткачых, майстроў, інжынераў — праслухаць лекцыю, прагледзець кінофільм, прыняць удзел у рабоце шматлікіх гурткоў.

Ленінградскія тэкстыльшчыкі з выключнай любоўю захоўваюць свой клуб. З гэтым памяшканнем звязана адна з самых яркіх старонак у гісторыі нашай партыі.



**Піонеры на экскурсіі ў кватэры-музеі В. І. Леніна па 10-й Совецкай вуліцы.**

Тут пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна працаваў VI з’езд нашай партыі. Ён адбываўся нелегальна. Яго ахоўвалі ад шпіёнаў буржуазіі піцерскія рабочыя. «Сышчыкі збіліся з ног, каб знайсці месца паседжання з’езда, але так і не знайшлі яго», — гаворыцца ў Кароткім курсе гісторыі ВКП(б).

З мэтай канспірацыі з’езд перанёс сваю работу за Нарвскую заставу. Паседжанні яго праходзілі ў памяшканні школы каля Нарвскіх варот, дзе цяпер узвышаецца велічны Палац культуры імя А. М. Горкага. Адно з паседжанняў з’езда абылося ў доме № 23 па Новасіўкаўскай вуліцы. Тут 12 жніўня (30 ліпеня) 1917 года таварыш Сталін выступіў на VI з’ездзе партыі з дакладам аб палітычным становішчы.

Вялікі Сталін сказаў на VI з’ездзе гістарычныя словы, поўныя непахіснай веры ў рэволюцыйныя сілы рускага рабочага класа: «Не выключана магчымасць, што іменна Расія з’явіцца краінай, пракладваючай шлях да соцыялізма... Трэба адкінуць аджыўшае ўяўленне аб тым, што толькі Еўропа можа ўказаць нам шлях. Існуе марксізм дагматычны і марксізм творчы. Я стаю на глебе апошняга».

Расія з’явілася краінай, пракладшай шлях да соцыялізма, паказаўшай дарогу да светлай будучыні ўсім працоўным зямнога шара. Збыліся прарочыя словы таварыша Сталіна. Праз 35 год пасля VI з’езда партыі ў сваёй гістарычнай прамове на XIX з’ездзе таварыш Сталін сказаў: «Цяпер, калі ад Кітая і Карэі да Чэхаславакіі і Венгрыі з’явіліся новыя «Ударныя брыгады» ў асобе народна-дэмакратычных краін, — цяпер нашай партыі лягчэй стала змагацца, ды і работа пайшла весялей».

... Зноў вернемся на Выбаргскую старану. Тут у адным з дамоў па Сердабольскай вуліцы пасяліўся В. І. Ленін, прыехаўшы з Фінляндыі. Гэта была яго апошняя нелегальная кватэра. Ільіч сустрэўся з таварышам Сталіным на кватэры аднаго з рабочых завода «Айваз» на праспекце імя Энгельса (былое Выбаргскае шасе).

Петраградская старана. Набярэжная ракі Карпаўкі. У гэтым ціхім, аддаленым ад цэнтра кутку ў адной з кватэр адбылася падзея, пра якую коратка апавядае мемарыяльная дошка на фасадзе: «У гэтым доме 23 (10) кастрычніка 1917 года адбылося гістарычнае паседжанне Цэнтральнага Камітэта РСДРП (большэвікоў). Пад кіраўніцтвам Владзіміра Ільіча Леніна і Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна на гэтым паседжанні была прынята пастанова аб падрыхтоўцы да ўзброенага паўстання».

З групай экскурсантаў пройдзем у кватэру-музей. У адным з пакояў — стол, вакол яго крэслы. Шчыльна завешана акно. На сцяне — партрэт Салтыкова-Шчэдрына. Іменна так выглядаў пакой, калі тут праходзіла гістарычнае паседжанне Цэнтральнага Камітэта.

З пільнай увагай слухаюць маладыя рабочыя расказ дырэктара кватэры-музея аб тым, як, хаваючыся ад шпікоў Часовага ўрада, прышлі на паседжанне вялікія правадыры Ленін і Сталін. Былі прыняты найстражэйшыя меры для захавання канспірацыі. З дакладам на паседжанні выступіў В. І. Ленін. Ільіч і яго верны саратнік таварыш Сталін далі жорсткі адпор трацкісцка-зіноўеўскім капітулянтам, якія імкнуліся праваліць паўстанне.

Праз некалькі дзён пашыранае канспіратыўнае паседжанне членаў ЦК партыі большэвікоў было склікана ў памяшканні Лясноўскай падраённай думы. Ён захаваўся і цяпер, гэты стары драўляны будынак з балконам. Тут пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна 16 (29) кастрычніка распрацоўваліся практычныя задачы па падрыхтоўцы ўзброенага паўстання. На паседжанні быў створаны партыйны цэнтр па кіраўніцтву паўстаннем на чале з І. В. Сталіным.

А неўзабаве пасля гэтага грымнуў стрэл «Аўроры», які абвясціў пачатак новай эры ў гісторыі чалавецтва.

Велічнае памяшканне строгай архітэктуры з шырокім фасадам і калонамі. Перад ім — помнік В. І. Леніну.

Смольны!.. Каму невядома гэтае слова! Яно непарыўна звязана ў нашай свядомасці з імёнамі Леніна і Сталіна, з найвялікшай падзеяй у гісторыі грамадства — перамогай рабочага класа Расіі ў кастрычніку 1917 года.

Яшчэ ў жнівеньскія дні семнаццатага года таварыш Сталін адсюль, са Смольнага, дзе размяшчаўся тады Петраградскі Совет і ВЦВК Совета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, кіраваў рэволюцыйнымі сіламі ў барацьбе з контррэволюцыйным карнілаўскім мецяжом.

Са Смольнага кіраваў таварыш Сталін падрыхтоўкай узброенага паўстання ў кастрычніку 1917 года. Баявы штаб соцыялістычнай рэволюцыі ахоўвалі чырвонагвардзейцы, рэволюцыйныя салдаты і матросы.

Вечарам 24 кастрычніка ў Смольны прыбыў Ільіч. І. В. Сталін азнаёміў яго з ходам падзей. Геніяльныя правадыры Ленін і Сталін кіравалі ўзброеным паўстаннем. І яно перамагло!

У белакалоннай актавай зале Смольнага сабраліся вечарам 25 кастрычніка дэлегаты II Усерасійскага з’езда Советаў. З захапленнем сустрэлі яны Владзіміра Ільіча Леніна, які выступіў з дакладам аб задачах улады Советаў. На ўвесь свет прагучала рашэнне з’езда аб пераходзе ўлады ў рукі Советаў. З’езд прыняў дэкрэты аб міры і аб зямлі. Гэтыя гістарычныя дакументы былі напісаны В. І. Леніным у Смольным.

На II Усерасійскім з’ездзе Советаў у Смольным быў выбраны першы ў свеце Совецкі ўрад на чале з В. І. Леніным. У Совет Народных Камісараў увайшоў І. В. Сталін — бліжэйшы памочнік Леніна ў справе будаўніцтва совецкай дзяржавы.

Усё сваё жыццё прысвяцілі Ленін і Сталін барацьбе за шчасце працоўных. Імёны іх жывуць і будуць жыць заўсёды ў сэрцах совецкага народа і ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва. На прыкладзе гераічнага жыцця сваіх любімых правадыроў вучыцца жыць, змагацца, будаваць комунізм наша совецкая моладзь.








**Будынак па вуліцы Зодчага Росі, дзе да 10 сакавіка 1918 г. размяшчаўся Народны Камісарыят па справах нацыянальнасцей, якім кіраваў І. В. Сталін.**

Д. ТРАФІМАЎ

# НЯСПЫННЫЯ ПОШУКІ

Нарыс

Фота М. Мінковіча.



Не менш трох норм выконвае за змену токар-камсамолец, майстар высокіх хуткасцей Уладзімір Старычкоў.



Брыгадзір слесараў-зборшчыкаў камсамолец Мікалай Дземідзенка.

Амаль два гады таму назад па многіх дарогах Радзімы пайшлі вялізныя самазвалы «МАЗ-525» Мінскага аўтамабільнага завода. У неабсяжных сталінградскіх стэпах, на схілах Жыгулёўскіх гор, — усюды, дзе толькі ідуць вялікія будоўлі пяцігодкі, ёсць гэтыя дваццаціпяцітонныя волаты.

...Цэх цяжкіх машын аўтазавода. Шырока расчыняюцца вароты цэха, працяглы сігнал—і на асфальтаваную дарогу адзін за другім выязджаюць яшчэ некалькі цёмназялёных, са срэбранымі зубрамі на капотах самазвалаў.

Часта бывае, што маладыя рабочыя выходзяць з цэха праводзіць у першую дарогу сваіх сталёвых прыгажуноў. І хоць кожны вузел, кожная дэталь машыны старанна правераны, многія хвалююцца. Усведамленне, што гэтыя самазвалы—для будоўляў камунізма, абавязвае і пажылога майстра і юнака, які яшчэ носіць шапку са значком рамесніцкага вучылішча, асабліва ўважліва, любоўна ставіцца да сваёй работы.

У кабіне шофера пярэдняй машыны чыясьці клапатлівая, напэўна жаночая, рука прымацавала букет першых вясновых кветак. Букет, вядома, не даедзе да Куйбышэва, але аўтазаводцы рады ўпрыгожыць ім сваю машыну.

Самазвалы-гіганты велічнай калонай, ажно дрыжыць зямля, ідуць па дарозе, абсаджанай дрэўцамі, на якіх па-вясноваму густа зелянее лісцё. А воддаль шумяць высокія сосны... У гэты сонечны дзень ва ўсіх радасны, святочны настрой.

Вясна не толькі на заводскім двары, дзе на клумбах расцвілі кветкі, вясна—у цэхах. Шмат святла і паветра стала ў прасторных заводскіх карпусах. На ўчастках, у аддзяленнях, цэхах усё часцей і часцей «Маланкі» паведамляюць аб поспехах асобных стаханаўцаў, брыгад, змен. А са станцыі чыгункі ўсё больш адпраўляецца платформ, часта цэлымі эшалонамі, на якіх красуюцца беларускія аўтамашыны.

Хто-ж стварыў гэтыя машыны—дваццаціпяцітонныя самазвалы?

У нашай краіне добра вядома імя таленавітага канструктара Барыса Шапашніка. Пад яго

Цэх цяжкіх машын Мінскага аўтазавода. Злева направа: камсамолец-токар Іван Станкевіч, начальнік аддзялення Георгі Чабатароў і камсамолец-фрэзероўшчык Леанід Аляшкевіч.



кіраўніцтвам працуе вялікая група канструктараў. І хоць па ўзросту большасць з іх маладыя, яны паспяхова вырашаюць розныя складаныя задачы.

Але ці адны яны вырашаюць іх? Не. У стварэнні машыны прымаюць удзел усе, хто звязаны з яе вытворчасцю. Вельмі часта рашэнне тэхналагічных і канструктарскіх пытанняў адбывалася не ў кабінеце ля чарцёжнага стала, а ў цэху, ля станка. І ў той час, калі ствара́лася першая машына, і цяпер часта можна бачыць канструктара побач са слесарам: яны горача абмяркоўваюць, як лепш асвоіць выраб той ці іншай дэталі.

Наш аўтамабільны завод — малады, а цэх цяжкіх машын — яшчэ маладзейшы. І тут, як у іншых цэхах завода, працуе пераважна моладзь, камсамольцы. «МАЗ-525» быў экзаменам на сталасць для мінскіх аўтазаводцаў. І яны паспяхова вытрымалі гэты экзамен. Самазвал стварылі, асвойвалі яго выпуск усе — і канструктары, і інжынеры, і тэхнікі, і рабочыя.

Заўсёды творча падыходзіць да сваёй працы слесар-камсамолец Мікалай Дземідзенка.

Напрыклад, зборка крышкі каробкі перадач лічылася вельмі працаёмкай аперацыяй. Мікалай Дземідзенка задумаўся, ці нельга яе спрасціць. На рабоце і дома шукаў малады рацыяналізатар адказу на гэтае пытанне, старанна наносіў на паперу чарцяжы сваёй канструкцыі крышкі. Пасля доўгіх пошукаў камсамолец дабіўся мэты — час, неабходны для зборкі, скараціўся ў тры разы.

Токара-камсамольца Уладзіміра Старычкова не задавальняла хуткасць рэзання. Авалодаўшы перадавымі метадамі такарнай справы, Уладзімір дасягнуў вялікіх поспехаў. Зараз яго станок не прастойвае ні хвіліны і працуе на высокіх хуткасцях. З-пад разца бесперапынна струменіць тонкая спіраль блакітнай стружкі. Нават пажылыя рабочыя, токары з вялікім стажам, заглядваюцца на работу Уладзіміра. Звычайна к канцу змены ля рабочага месца Уладзіміра Старычкова вырастае піраміда дэталей. Іх столькі, колькі павінны зрабіць па норме за змену трое рабочых.

Слаўныя радкі ў гісторыю аўтазавода ўпісаў токар-камсамолец Уладзімір Сазанаў. Ён заўсёды адносіцца да справы з любоўю, з натхненнем. Уладзімір дасканала авалодаў сваім станком, і за ім умацавалася слава станочніка-віртуоза. Але нават і гэта не задавальняла юнака. Ён штодзённа шукаў новых магчымасцей, новых рэзерваў для павышэння прадукцыйнасці працы. Шукаў і знаходзіў. Вывучыў расточны станок, і цяпер яму не трэба сваю работу аддаваць расточнікам. Потым авалодаў свідравальным і шліфавальным станкамі. У выпадку неабходнасці ён можа выконваць работу слесара і фрэзероўшчыка.

З вялікім поспехам укараніў свой метад скараснога фрэзеравання камсамолец Леанід Аляшкевіч.

Усе яны — Мікалай Дземідзенка, Уладзімір Старычкоў, Уладзімір Сазанаў, Леанід Аляшкевіч і многія іншыя стаханаўцы-рацыяналізатары могуць з гонарам сказаць: мы — творцы новай машыны.

Гэта было нечаканасцю для кавалёў. У абедзенны перапынак на самым відным месцы з'явілася «Маланка». Рабочыя кавальскага цэха сабраліся каля яе. Камсамольцы цэха цяжкіх машын абвінавачвалі кавалёў у тым, што яны затрымліваюць выраб асобных дэталей, тармозячы зборку чарговых машын.

Камсамольцы-кавалі горача абмяркоўвалі «Маланку»: трэба падцягнуцца, увайсці ў графік, а потым апярэдзіць яго.

Самакрытычна паставіўшыся да недахопаў у рабоце свайго цэха, кавалі неўзабаве выйшлі з прарыву. Крытыка паслужыла на карысць справе, яшчэ больш зблізіла калектывы двух цэхаў.

З кожным днём усё цясней завязваецца дружба, мацней становіцца калектыўная ўзаемадапамога паміж рабочымі цэха цяжкіх машын. Мікалай Дземідзенка не мог вырашыць сам, як у зборцы вузла прывода вентылятара змяніць адну з дэталей. Змяненне яе абяцала вялікую эканомію металу і часу, палепшанне якасці ўсёй работы. Мікалай звярнуўся за парадай да таварышаў — Міхаіла Гудымава і Аляксандра Няхая. Таварышы пачалі думаць разам.

Аднойчы да іх падышоў начальнік механічнага аддзялення, член камітэта камсамола Георгі Чабатароў.

— Як справы, хлопцы?

— Па праўдзе сказаць, у задуме ўсё добра, але з чарцяжамі не клеіцца, — адказалі яму.

— Заходзьце вечарам да мяне, падумаем разам.

І не адзін вечар далёка за поўнач свяцілася акно ў пакоі Чабатарова. Рашэнне, вядома, было знойдзена. Але справа не толькі ў тым, што быў знойдзены правільны выхад. Так ужо ўвайшло ў прывычку ў цэху цяжкіх машын — тое, што не можа вырашыць адзін, вырашаецца калектыўна. Тут асабліва горда гучаць словы: «Мы — калектыў!»

Дружба, якая нарадзілася ў працы, дапамагае вырашаць самыя складаныя задачы. І не толькі ў гэтым значэнне дружбы. Яна і перавыхоўвае людзей, падцягвае тых, хто адстае, да ўзроўню перадавых таварышаў.

Зусім нядаўна Віктар Ярош быў адным з самых адстаючых рабочых. І часта, калі работа была выканана ім неахайна, яму казалі: «Ты — аўтазаводзец, а гэта да многага абавязвае. У нас не можа быць роўнадушных, неахайных. Усё, што табе даручана, павінна быць зроблена не толькі добра, але выдатна!»

Некаторыя таварышы з цэхавай адміністрацыі выказалі нават такую думку — звольніць Віктара з работы, бо, як ты з ім ні б'ешся, ён усёроўна норм не выконвае, часта дапускае брак і наогул недысцыплінаваны.

— Не, так нельга, — сказаў сакратар камсамольскай арганізацыі цэха Яўгені Герасіменка. — Калектыў мацней за аднаго чалавека, ён яго перавыхавае. Памылка нашай цэхавай арганізацыі ў тым, што мы выпусцілі з-пад увагі Віктара. Нам трэба бліжэй прыгледзецца да яго.

Да Віктара камсамольцы паставіліся больш сур'ёзна, пачалі даручаць яму больш адказную работу. Пры штодзённай увазе, падтрымцы сяброў Віктар пачаў працаваць лепш. Браку ў яго рабоце ўжо не было. І цяпер на дошцы паказчыкаў супраць прозвішча Яроша звычайна ставіцца лічба 120 або 130 працэнтаў нормы.

Моладзь цэха не толькі авалодвае вышынямі майстэрства ў сваёй прафесіі, яна праходзіць тут вялікую жыццёвую школу. Тут складаецца светапогляд, характар чалавека. І хоць завод намнога маладзейшы за самага маладога рабочага, ён ужо мае свае добрыя традыцыі.

Мяккае святло настольнай лямпы падае на пісьмовы стол. Георгі Чабатароў час-ад-часу адкладае ўбок невялічкую брашуру і робіць запісы ў тоўсты сшытак. Каляровым алоўкам абвёў у брашуры лічбу «20», якая абазначае, на колькі працэнтаў будзе павялічаны выпуск аўтамабіляў у

# ДРУН У КАЛГАСЕ

У канцылярыі калгаса «Чырвоны сцяг» Давыд-Гарадоцкага раёна вечарамі заўсёды людна. Сюды збіраюцца не толькі брыгадзіры, каб рапартаваць старшыні аб тым, што і як зроблена за дзень. У канцылярыю прыходзяць калгаснікі — хлопцы і дзяўчаты, пажылыя мужчыны і жанчыны. Прыходзяць, бо тут хутчэй за ўсё можна даведацца аб далёкіх і блізкіх падзеях, падзяліцца сваімі думкамі, пачуць добрае, разумнае слова агітатара.

Любяць калгаснікі зайсці ў канцылярыю яшчэ і таму, што тут вывешваецца іх свежая насценная газета «Ленінскі шлях» і брыгадныя «баявыя лісткі». Невялічкія гэта газеткі, але кожнаму хочацца прачытаць іх, даведацца пра сваіх перадавікоў, пасмяяцца над карыкатурамі. Вось, насупіўшы бровы, у газету ўглядаецца Мікалай Фларыяновіч. Ён чытае заметку і густа чырванее ад сораму. Гэта-ж пра яго напісана, што ён «да работы не мае ахвоты»... Яму тым больш крыўдна, што ў іншых заметках газеты яго суседзяў — Аляксея Будзько, Мікалая Серадзіна, Антона Мішкова — называюць перадавымі людзьмі, стаханаўцамі. І пойдзе цяпер па калгасе гаворка, што Фларыяновіч абібок, што ён не любіць працаваць... Будуць гаварыць аб гэтым і ў вочы і за вочы, бо так напісана ў газеце.

«Ленінскі шлях» і «баявыя лісткі» сталі вялікай сілай у калгасе. Яны заваявалі высокі аўтарытэт і пашану сярод людзей. У іх пішуць комуністы і беспартыйныя, брыгадзіры і калгаснікі. Пішуць аб сваіх поспехах, ускрываюць недахопы, паказваюць лепшых людзей і выводзяць на чыстую ваду гультаёў, рвачоў і абібокаў. І няхай заметкі яшчэ не апрацаваны так гладка і хораша, як гэтага хацелася-б патрабавальнаму рэдактару, але яны простыя, шчырыя. У гэтым іх сіла.



На здымку: **Настаўніцы Надзежда Васюк і Тамара Будовіч за выпускам чарговага нумару «баявога лістка».**

Найбольш актыўны ўдзел у выпуску калгасных газет прымае моладзь. Сельскія комсамольцы, маладыя настаўнікі лічаць выданне газеты справай свайго гонару. Яны любоўна афармляюць кожны нумар, укладаюць многа працы і руплівасці, дапамагаюць свайму калгасу паспяхова выконваць задачы, пастаўленыя перад сельскімі працаўнікамі XIX з'ездам партыі.

**Тэкст Я. МІСКО, фота А. КАРНІЦКАГА.**

новай пяцігодцы. Гэтую лічбу з рашэнняў XIX з'езда партыі ведае кожны аўтазаводзец.

Сёння, рыхтуючыся да чарговых заняткаў у гуртках партыйнай і комсамольскай асветы, многія аўтазаводцы зноў перачытваюць хвалюючыя радкі дырэктыў з'езда.

Геніяльную працу І. В. Сталіна «Эканамічныя праблемы соцыялізма ў СССР», матэрыялы XIX з'езда КПСС рабочыя, служачыя, інжынеры завода вывучаюць не толькі ў гуртках, але і самастойна. Для таго, каб з дня ў дзень удасканальваць майстэрства, трэба многа ведаць, авалодваць новай тэхнікай, многа вучыцца. І аўтазаводцы вучацца.

Сын тульскага рабочага Георгі Чабатароў без адрыву ад вытворчасці скончыў аўтамеханічны тэхнікум. Цяпер ён вылучаны на пасаду начальніка механічнага аддзялення. У гэтым годзе ён вырашыў паступіць на завочнае аддзяленне політэхнічнага інстытута.

Вайна перашкодзіла токару Міхаілу Русаковічу атрымаць асвету. Працуючы на заводзе, ён чацверты год вучыцца ў вячэрняй школе рабочай моладзі. Цяпер ён у восьмым класе, марыць аб інстытуце.

Закончыўшы працоўны дзень, шэсцьсот сорак маладых рабочых садзяцца за парты ў вячэрніх школах. Каля трохсот пяцідзесяці чалавек вучацца ў тэхнікумах і ВНУ. Але асабліва вялікая цяга моладзі да авалодання навукай усіх навук — тэорыяй марксізма-ленінізма. Больш двух тысяч чалавек наведваюць гурткі палітасветы. Навука, якая асвятляе шлях да комунізма, натхняе іх на новыя подзвігі ў працы.

Дзень — сонечны, вясновы. Блакітнае неба, маленькія белыя хмурынкі на ім, цёплы ветрык — усё спрыяе задушэўнай гутарцы, ясным марам.

І тут, ля фантана, і там, на заводскім двары, дзе на газонах зялянее трава, у абедзенны перапынак збіраюцца маладыя аўтазаводцы. Дзяўчаты ажыўлена абмяркоўваюць апошні спектакль, студэнты-завочнікі гутараць пра блізкую экзаменацыйную сесію, аматары спорту спрачаюцца аб першай у новым сезоне сустрэчы заводскай футбольнай каманды... Але так ці інакш, размова пераходзіць на тэму аб любімай справе. Гаворачы аб справах, якія трэба зрабіць у бліжэйшы час, маладыя рабочыя нібы робяць цікавае падарожжа ў заўтрашні дзень. Гэты дзень адкрывае шырокую дарогу для творчай працы.

Гэта — справы сённешніх дзён слаўнага калектыва. Будучыня паставіць перад імі яшчэ больш складаныя задачы. І аб гэтым зараз думаюць і гавораць усе — ад рабочага да канструктара.

Жыццё не стаіць на месцы, яно няспынна пашырае творчыя гарызонты маладых будаўнікоў беларускай індустрыі.

Дваццаціпяцітонны волат «МАЗ-525» выходзіць з варот завода.






**Комсамольцы мінскага аўтазавода вывучаюць рашэнні XIX з'езда КПСС.** На здымку — **Вядучы канструктар прапагандыст-комсамолец тав. Сіроткін З. Л. праводзіць заняткі са слухачамі комсамольскага палітгуртка механа-зборачнага цэха па матэрыялах XIX з'езда.**

Фота Мінковіча.



**Вучаніца 41-й школы горада Мінска комсамолка Ларыса Цёмнава дапамагае падрыхтавацца да экзаменаў сваёй малодшай сяброўцы Люсі Патук, якая вучыцца ў V класе 12-й школы.**

**Фота А. Дзітлава.**



# СІНІЧКА

Алесь РЫЛЬКО

Апавяданне

Малюнкі Н. Гуціева.

У праўленне калгаса «Высокі бор» Валя зайшла расчырванелая, радасная. Следам за ёю, несучы два чамаданы, увайшоў дзядзька Андрэйчык. Не паспела дзяўчына прывітацца, агледзецца, як падводчык, шчыра ўсміхаючыся, прагудзеў:

— Агранома прывёз, таварышы! Назаўсёды ў нас застаецца!

— Добры дзень! — прывітала Валя прысутных, нібы даўно знаёмых сяброў.

Калгаснікі, якіх у праўленні было чалавек дзесяць, адказалі ўразнабой, дапытліва прыглядаючыся да новага агранома. А яна, невысокага росту, у паліто з коцікавым каўняром, у маленькіх боціках, — ну, зусім дзяўчынка! — стаяла пасярод пакоя і ўсміхалася. Падыйшоўшы да стала, прыгледзелася да людзей і сярод іх пазнала старшыню калгаса Макацёра, якога некалькі разоў бачыла ў раёне.

— Добры дзень, таварыш старшыня! — падаючы руку, сказала Валя.

Адтапырыўшы губы, з незразумелай усмешкай на твары, Макацёр нарэшце адваліўся ад сцяны, сеў раўней і не спяшаючыся, вяла падаў вялікую руку.

— Што-ж, значыць, агранам?.. — і невядома чаму памахаў галавой.

Хлопец у шынялі без пагонаў, з вялікім чубам светлых валасоў уступіў Валі сваё места ля стала. Дзяўчына падзякавала, села насупраць старшыні, дастала з сумачкі і падала яму паперку — накіраванне.

Прачытаўшы накіраванне, Макацёр пакрыўджана апусціў вочы і, нібы між іншым, запытаў:

— Вы, таварыш агранам, даўно скончылі вучобу?

— Летась. Паляводчы тэхнікум.

— Уг-у-у!.. — прагудзеў старшыня. — Я вас, здаецца, недзе бачыў?

— Поўгода я працавала ў раённым аддзеле сельскай гаспадаркі.

— Поўгода... — паўтарыў старшыня. — Без году тыдзень.

— Сапраўды, практыкі ў рабоце ў мяне няшмат... — згадзілася Валя.

— Толькі поўгода працавалі аграномам, — працягваў старшыня, — і то паперкі перакладвалі...

— Так, — пацвердзіла Валя, і з твару яе знікла ўсмешка.

Адчуўшы ў словах старшыні непрыязнасць, яна спакойным голасам гаварыла далей:

— Перакладвала паперкі, а цяпер рашыла працаваць па спецыяльнасці. Вось мяне і накіравалі ў ваш калгас.

— Гэта я ведаю, што накіравалі!.. — Старшыня яшчэ раз, невядома чаму, паківаў галавой.

Мужчына год пад трыццаць, у дублёным рудым кажушку, увесь час патакваў старшыні, пахіхікваючы. Нарэшце, ён знайшоў зручны выпадак уставіць сваё слова. Паглядзеўшы на Валю, ён пачаў:

— Дык што-ж вы ў нас будзеце рабіць? У ляльки гуляць? Х-хі!..

У твар Валі ўдарыла гарачыня, але дзяўчына стрымалася. А мужчына ў кажуху наступаў далей:

— Памятаеце-ж, хлопцы, летась у наш калгас усё прыязджала аграномша, дзяўчына...

Валя ўважліва прыслухоўвалася да гаваруна. «Падхалім», —адразу-ж вызначыла яна вартасць гэтага чалавека. Заўважыла на поясе ў яго вялікую нізку ключоў... «Кладаўшчык»...

— Дык тая аграномша, — хіхікаў кладаўшчык, — назбірае, бывала, ахапак кветак, нарве жменю каласоў, кажа: «На апрабацыю», — і паехала ў раён. Вось табе і аграном! Рагатаць яшчэ, праўда, умела. Як зайдзецца, дык ажно ў вушах звініць!..

Андрэйчык некалькі разоў намерваўся перапыніць кладаўшчыка. Нарэшце, ён абурана прамовіў:

— А ты, Цявок, і тут свае тры капейкі ўторкнуў!..

— Я? Хі!..

— Маўчы! Балбатун!

— І праўда, — падтрымаў хлопец у вайсковым, — праз цябе, Цявок, толькі сораму набярэшся...

— Праз мяне? Х-хі!..

— Маўчы! — паківаў Андрэйчык пальцам. — Чалавеку, — дзядзька кіўнуў галавой на Валю, — трэба з дарогі адпачыць, даць кватэру, а яны... Эх!.. Вось што, таварыш агране! Прашу вас спыніцца ў мяне жыць. Хата ў мяне вялікая, светлая, асобны пакойчык знойдзецца. Хадзем!

Валя ўстала з-за стала.

— Што-ж, таварыш старшыня, а я сапраўды спынюся на кватэры ў дзядзькі Андрэйчыка, — і хацела падаць старшыні руку, але ўстрымалася. — Размова ў нас атрымалася не зусім што... — на вуснах дзяўчыны прамільгнула горкая ўсмешка. — Да пабачэння! Дык з заўтрашняга дня приступлю да работы.

Андрэйчык узяў чамаданы, яшчэ раз сярдзіта глянуў на Цяўка і вышаў з праўлення ўслед за аграномам.

У калідоры Валю дагнаў хлопец, апрануты ў вайсковае. Трохі засароміўшыся, ён прамовіў:

— Таварыш агранам, прабачце...

Валя спынілася.

— Дазвольце пазнаёміцца. Я — Івашкевіч, Максім, сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса. А ваша прозвішча Сінічка? Валянціна Андрэеўна?

— Проста — Валя! — і дзяўчына па-сяброўску ўсміхнулася Івашкевічу, які ад гэтага яшчэ больш разгубіўся.

Ужо на двары хлопец растлумачыў:

— Мне з райкома камсамола званілі, казалі пра вас, дык я і ведаю... Заўтра ў нас камсамольскі сход, прыходзьце...

— Добра, таварыш Івашкевіч. Я заўтра і на камсамольскі ўлік у вас вазьмуся. Мне вядома, што ў вас няма партыйнай арганізацыі, таму на нас, камсамольцах, ляжыць яшчэ большая адказнасць.

І хлопец вярнуўся ў праўленне.

— Паедзем, таварыш аграном, дамоў, — запрасіў Андрэйчык, папраўляючы ў санях сена. — Тут недалёка. Мая хата ў канцы вёскі, над самай рэчкай.

Па дарозе дадому Андрэйчык усё яшчэ абураўся:

— От-жа Цявок!.. «Леташні аграном»... Аграном яна была не благі. Кветкі, вядома, любіла, звонка смяялася... Дык на тое-ж яна і дзяўчына!

Валя моўчкі слухала Андрэйчыка. На сэрцы ў яе было неспакойна: у праўленні спаткалі няветліва, а яшчэ думалася, як пойдзе работа...

— Праўда, адна толькі бяда, — гудзеў Андрэйчык, — не змог наш леташні аграном паставіць сябе цвёрда, дабіцца таго, каб яго слухаліся. Скажа: вось так урабляць глебу, а старшыня ўсё робіць па-свойму: «Мяне не вучы, я сам усё ведаю». А дзе-ж ён усё ведае, калі асветы ў яго — кот наплакаў. А агранома, што ні кажы, спецыяльна вучылі, як рабіць з зямлёй... Вядома, навука!.. Без яе ў нас цяпер ні кроку!

Аб тым, што з першага дня работы трэба сябе паставіць сур'ёзна, прынцыпова, Валя думала раней, і не адзін раз. Быць патрабавальнай у першую чаргу да сябе, а потым да людзей, — гэта стала яе найпершым штодзённым правілам.

— Старшыня ў нас вельмі самаўпэўнены, слова насупераж яму не скажы, — гаварыў Андрэйчык, тузаючы лейцы. — Уламаць яго цяжка. Я спрабаваў з ім схапіцца і... адступіў. За ім пакуль што верх.

Валя не распытвала пра старшыню калгаса. «Па-першае, — думала яна, — не такі ён страшны, як яго малююць, а па-другое, сама разбяруся, што да чаго. Людзей слухай, аднак і свой розум не губляй».

На бярозе каля хаты сядзелі шпакі.

— Дзядзька! — усклікнула Валя, — адразу павесялеўшы. — Глядзіце! Шпакі прыляцелі!

Андрэйчык збіў шапку на патыліцу, глянуў угору:

— Эге! Вясна не за гарамі! Но-о, мілы!

... Назаўтра раніцой Валя паспяшалася ў праўленне. Макацёр спаткаў яе там, як і напярэдадні, пасмейваючыся.

— А-а-а, таварыш Сінічка! — і зноў вяла, з цяжкасцю адваліўся ад сцяны, падаючы цераз стол руку. — А я думаў, прыедзе да мяне верабей... Стары, вопытны ве-ра-бей, а тут сі-ніч-ка...

Ідучы ў праўленне, Валя прадчувала, што старшыня пачне размову на ўчарашні лад, таму трымалася ўпэўнена, раззажліва.

— А чаму-ж гэта вам патрэбен абавязкова верабей? — запытала яна.

Калгаснікі, якія прысутнічалі ў праўленні, з цікаўнасцю слухалі размову старшыні і аграноме. Па перашэптванню было відаць, што іх сімпатыі на баку Сінічкі, якая трымала сябе з годнасцю, упэўнена. Быў тут і Цявок. Сёння ён хіхікаў значна цішэй, напэўна таму, што з яго не зводзіў вачэй Івашкевіч.

— А верабей — лепш! — на запытанне Валі адказаў старшыня. — З вераб'ём па-мужчынску і чарку вып'еш, і пагаворыш з ім па-мужчынску...

— Так, са мной вы піць не будзеце.

— У нас-жа, таварыш Сінічка, — і старшыня моцна запыхкаў дымам папяросы, — паветра не гарадское...

— Якое гэта яшчэ паветра?

— Накурана!..

— І вельмі брудна, — дапоўніла Валя, глянуўшы на падлогу.

— Дык што, можа вам вазоны з кветкамі паставіць на вокнах? — крыва ўсміхнуўся старшыня.

— Не шкодзіла-б і кветкі!

— Гэта што, кветкі будуць па лініі агранаміі?

— Па лініі культуры. І наогул, таварыш Макацёр, пакінем гэтую недарэчную размову. Я буду рэгулярна чытаць калгаснікам лекцыі па агранаміі. Вы, спадзяюся, будзеце наведваць лекцыі? Яны вам не пашкодзяць. Зразумееце, нарэшце, як правільна весці севазварот...

Макацёр папярхнуўся — летась увосень за гэты севазварот яго так «размалявалі» ў раённай газеце, што, як ён сам прызнаўся, «аж усім чарцям было моташна».

— Скажыце вось, калі ласка, — запытала Валя, — чаму ваш калгас перастаў вывозіць са станцыі мінеральнае ўгнаенне?

— Куды яго нам гэтулькі?! — пасур'ёзнеўшы, адказаў Макацёр. — І так навазілі уга колькі! А ў нас зямля добрая...

Дзед, які сядзеў бліжэй да парога, на гэтыя словы старшыні заўважыў:

— Маслам кашу, як той казаў, не сапсуеш...

— Пакуль санная дарога, — параіла Валя, — трэба, таварыш старшыня, вывезці ўгнаенні, інакш вас за гэта не пахваляць ні калгаснікі, ні ў раёне.

Макацёр устаў, павысіў голас.

— Вось я і думаў, прышлюць агранома, ён і пачне: тое яму не так, гэтае не гэтак. Камандаваць кожны ўмее!..

— Я не камандую, — сказала Валя, — а раю. Раю, як аграном калгаса, што і як лепш трэба зрабіць.

Макацёр нічога не сказаў, бо, відаць, ён пачуў словы Андрэйчыка, які даволі гучна паведаміў свайму суседу:

— Гэта — дзяўчына! Яна, вер мне, вытрасе пыл з Макацёра.

— Таварыш Цявок, — сказала Сінічка, — мне трэба зараз паглядзець, як захоўваецца насенне. Пройдзем, калі ласка, у свірны, паглядзім.

Па дарозе да свірнаў Валя цікавілася, які працэнт усходжасці, засмечанасці насення. Кладаўшчык запэўняў, што паказчыкі аналізаў выдатныя. І ўжо стоячы перад засекам, поўным насення, аграном здзівілася:

— Вы, аказваецца, не перапалапачваеце насенне! Яно-ж можа затхнуцца! Панізіцца ўсходжасць!

— Нідзе не дзенецца! Узыйдзе, як піць даць!

— Заўтра-ж абавязкова трэба перапалапаціць. Зразумела?.. — і Валя набрала ў прыгаршчы пшаніцы, каб лепш разгледзець яе пры святле адчыненых дзвярэй.

— А што вы мне загадваеце? Можа, вы — старшыня калгаса? — буркнуў кладаўшчык.

— Так, я загадваю вам упардкаваць насенне. Я — аграном калгаса. Не паслухаеце мяне — вам агульны сход загадае зрабіць гэта. — Разгледзеўшы пшаніцу, Валя запытала: — А скажыце, чаму ў ёй прымесь ячменю і гарошку?

Хаваючы ўсмешку, кладаўшчык рашыў пакпіць з агранома. З сур'ёзным выглядам ён сказаў:

— А ведаеце, — мышы! Няма ратунку ад іх! Як пачнуць гарцаваць па засеках, дык пшаніца пырскае ў ячмень, а ячмень — у пшаніцу!

— Няўжо? — нібы не разгадаўшы намер Цяўка, запытала Валя.

— Ага! Праўду кажу!

— А ведаеце, — таямніча параіла Валя, — вы ў свірнах, як відаць, нічога не робіце, дык хоць-бы мышэй лавілі!

Ад нечаканасці Цявок ажно ступіў некалькі крокаў назад.

Валя абыйшла ўсе свірны, беручы пробы насення на ўсходжасць і засмечанасць.

Апоўдні Валя, нарэшце, дайшла да калгаснай кузні, з якой, здалёк было чуваць, нёсся вясёлы звон кавадла пад двума молатамі.

На парозе кузні Валю спаткаў Максім Івашкевіч. У цёмнасіняй кашулі з закасанымі рукавамі, ён стаяў перад аграномам і зноў чамусьці разгублена ўсміхаўся. Валя, убачыўшы тут Івашкевіча, здзівілася.

— А я тут памочнікам, — на запытальны позірк Валі адказаў хлопец. — Заходзьце, — і даў дзяўчыне дарогу.

Прывітаўшыся са старшым кавалём, Валя адразу-ж прыступіла да справы: яе цікавіла, ці поўнасцю адрамантаваны інвентар. Высветлілася, што ўсе плугі і бароны ў парадку, а зараз кавалі акоўваюць колы.

— Мы адставаць не можам!.. — растлумачыў Максім.

Валя папрасіла Івашкевіча праверыць, пажадана сёння-ж, ці спраўны трыер і іншыя ачышчальныя машыны, бо, як яна сказала, з заўтрашняга дня трэба будзе пачаць пераачыстку насення. Потым з Максімам удакладніла парадак дня сённяшняга камсамольскага сходу.

Увечары камсамольцы сабраліся ў клубе на сход. Абмяркоўвалі адно пытанне: што можна яшчэ зрабіць да пачатку палявых работ.

Пасля спрэчак аднагалосна вырашылі, што з заўтрашняга дня трэба накіраваць групу камсамольцаў на пераачыстку насення; пакуль санная дарога, узмацніць вывазку ўгнаення; узяць пад камсамольскі кантроль выдаткаванне кармоў на фермах калгаса; рэгулярна выпускаць насценгазету. У рашэнні сходу адзначалася, што ўсе пытанні, за выключэннем апошняга, трэба ўзгадніць са старшынёй і праўленнем калгаса.

Пасля сходу Максім, адхінуўшы рукою чуб, шырока ўсміхнуўся і запрапанаваў:

— А цяпер, таварышы, польку пачнем ці што? — і дастаў з шафы баян. Расцягнуў мяхі, прабег пальцамі па ладах...



# ТЭЛЕВІЗАР У ГОМЕЛІ



Члены радыёклуба П. Граўцоў (злева) і Е. Кернажыцкі абмяркоўваюць новую схему тэлевізара.

У Гомелі, на Комсамольскай вуліцы, стаіць шматпавярховы будынак. На ім устаноўлена незвычайнага выгляду мачта. Да металічнай трубчатай апоры прымацавана некалькі тонкіх металічных стрыжняў, якія размешчаны паралельна адзін да аднаго і ўтвараюць нешта накшталт драбіны, пакладзенай гарызантальна. Ад мачты да аднаго з вокан першага паверху працягнуты кабель у гумавай ізаляцыі. Гэта антэна першай у Беларусі аматарскай устаноўкі тэлебачання. Прыём перадач цэнтра тэлебачання ажыццяўляецца, як вядома, у радыусе да ста кіламетраў. Бліжэйшы да Гомеля тэлеперадатчык знаходзіцца ў Кіеве, амаль у трохстах кіламетрах. Але Гомельскія радыёаматары пераадолелі гэтую адлегласць.

Вось урывак з афіцыйнага ліста, адасланага ў канцы мінулага года з Гомеля ў Кіеў:

«Загадчыку Кіеўскага цэнтра тэлебачання.

... 26 кастрычніка мы ўпершыню прынялі перадачу з вашай студыі — п'есу «Звычайная гісторыя». Прыём адбываўся дрэнна: ізабражэнне было няўстойлівым, гук паяўляўся зрэдку і вельмі слабы.

Тады мы вырашылі перарабіць антэну. Новую антэну, таксама чатырохэлементны петлявы вібратар, мы разлічылі па частаце ізабражэння і паднялі на вышыню 32 метраў ад зямлі.

20 лістапада, ужо з новай антэнай і новай высокачастотнай прыстаўкай, мы прагледзелі кінокарціну «Аршын Мал-Алан», якую вы паказвалі. Адбітак на экране атрымаўся ўстойлівы і выразны. Гук быў дастаткова моцны, без скажэнняў...»

Далей у лісце гаварылася аб дрэнным уплыве снегападу на праходжанне па эфіру хваль, якія нясуць ізабражэнне, аб тым, што гомельскія радыёаматары пачатай справы не пакінуць і давядуць да канца. Гамельчане прасілі толькі паведаміць колькасць тэлеперадач, каб можна было больш эксперыментаваць з прыёмам.

Кіеў падзякаваў за ліст, павіншаваў з поспехамі і павялічыў колькасць перадач амаль удвая.

Не пісалі энтузіясты-гамельчане ў сваім лісце толькі аб тым, як у гэты знамянальны для іх дзень, 20 кастрычніка, убачыўшы, што прыём адбываецца добра, сабраліся яны ў адным з пакояў клуба і горача, усхвалявана віншавалі адзін аднаго. Не пісалі і аб тым, што не вытрымалі яны (настолькі нястрымнай і вялікай была іх радасць) — расчынілі дзверы ў залу побач, а там у той час было многа моладзі, і паклікалі:

— Хадзіце ўсе сюды! Глядзіце, усё відаць!

Невялічкі пакой імгненна запоўніла моладзь. Адразу прыціхшы, усе накіравалі позіркі да экрана тэлевізара. У той вечар гамельчане ўбачылі і пачулі далёкі Кіеў.

Аб гэтым у пісьме нічога не гаварылася не толькі таму, што яго аўтары палічылі нясціплым дзяліцца сваімі асабістымі пачуццямі, але і таму, што праз шэсць дзён, не гледзячы на ўсе намаганні, ні гуку, ні ізабражэння яны не атрымалі...

Але завяванне эфіру працягвалася.

Ініцыятар доследаў па прыёму тэлеперадач, старшыня савета Гомельскага радыёклуба таварыш Кернажыцкі, члены клуба тт. Суздалеў, Грыбанаў, Граўцоў і другія ўвесь час удасканальваюць тэхніку прыёму. Высокачастотная прыстаўка, аб якой гаварылася ў лісце, гэта ўзмацніцель радыёхваль, што нясуць ізабражэнне. Схема гэтага ўсіліцеля не раз ужо змянялася. Вышыня і форма антэны — вельмі істотныя фактары для прыёму — таксама яшчэ не дасканалыя і не задавальняюць радыёаматараў Гомеля; шэраг доследаў і эксперыментаў робіцца і сёння. Нарэшце, схема самога тэлевізара, сабранага рукамі гомельскіх энтузіястаў радыёсправы, таксама не задавальняе яе стваральнікаў.

Гомельскі радыёклуб мае ўсесаюзную вядомасць. Ён аб'ядноўвае таленавітых кароткахвалевікоў, выдатных канструктараў. Штогод на ўсесаюзных радыёвыстаўках гамельчане займаюць вядучыя месцы. На апошняй Усесаюзнай выстаўцы прадстаўлена шаснаццаць экспанатаў, зробленых у Гомелі. Трынаццаць з іх атрымалі дыпломы і прызы. У мінулым годзе каманда кароткахвалевікоў калектыўнай радыёстанцыі клуба заняла першае месца сярод каманд радыёклубаў Савецкага Саюза ў найцяжэйшым спаборніцтве на ўстанаўленне сувязі са ста абласцямі краіны.

**А. САЛАДКОЎ.**

---

Хто ў маладосці можа быць абыякавым да голасу гармоніка! Ногі самі нясуць цябе бліжэй да музыкі. І не аглянешся, як выскачыш у круг!

— Калгасную польку!..

Высокі хлопец устрапянуўся, паправіў на вышыванай кашулі пояс, зычна гукнуў:

— Шырэй круг! — і, падхапіўшы дзяўчыну, замяцеліў па кругу з такой імклівасцю, што твары танцораў цяжка было разгледзець. Доўгія чорныя косы дзяўчыны, заплеценыя чырвонымі істужкамі, узляталі, як нейкія крылы.

— Паддай, музыка! — крыкнуў хлопец.

Мікола сыпнуў польку яшчэ драбней. На круг вышла некалькі пар, і пад абцасамі ботаў і чаравікаў хадуном захадзіла падлога. У Валі ад захаплення аж зайшлося сэрца... Раптам яна пачула, што недзе ў парозе, за спінамі людзей, аб'явіўся новы танцор. Паглядзела... Ля сцяны сядзеў Цявок і з такім азартам тоўк нагамі падлогу, што ажно шапка ледзь трымалася ў яго на галаве. Праўда, ногі не зусім слухаліся... Кладаўшчык у такт свайго танца прыпяваў нешта недарэчнае:

А дыль-дыль-дыль-дыль-дыль-дыль!..
Бяжыць чорт, сядзіць бабыль!..

Падвыпіў ён, відаць, ад нейкага гора... Заўважыўшы агранома, змоўк і насунуў шапку на вочы — няйнакш успомніў пра мышэй...

Валю запрасілі на покуць і запрапанавалі месца поплеч з баяністам Максімам. Ды неўзабаве Валя пайшла танцаваць. Максім-жа ўвесь час крадком назіраў за ёй. Уздыхаў, — некаму было яго сёння змяніць за баянам...

Пад канец вечара музыкант расчуліўся да таго, што заліўся на баяне «Тонкай рабінай»...

...І не заўважыла Валя, як уступіла ў працоўнае жыццё «Высокага бору».

Тым часам вясна брала сваё. Хоць іншы раз, здавалася, яна адступае перад зімой, марозамі з ветрам, аднак неўзабаве, праз які дзень, яна прыходзіла яшчэ больш блакітная, ззяючая. Нарэшце, снег растаяў, прыляцелі жаваранкі, адшумелі паводкі...

Валя з галавой увайшла ў работу калгаса, у жыццё комсамольскай арганізацыі. Паспявала ўсюды. Нездагадлівай яна была толькі ў адным: баяніст Максім замест «Тонкай рабіны» ўсё часцей іграў «Выхаджу адзін я на дарогу»... І колькі смутку было ў гэтай «адзінокай дарозе», — словамі не выказаць! Уздыхаў хлопец, палохаючыся адной думкі, што яго Сінічка можа паляцець куды-небудзь з «Высокага бору». Толькі-б не паляцела! Рана ці позна яна пачуе, як горача б'ецца максімава сэрца, пачуе, каму грае яго перламутравы прыгажун!..

Ацэнку работы Валі зрабіў сам Макацёр. Вяртаючыся дні за тры да пачатку палявых работ з раённай нарады старшынь калгасаў і аграномаў, ён выклаў сваю душу перад даўнішнім сябрам:

— Пытаеш, як жывў? — і Макацёр у роспачы паківаў галавой. — Ведаеш, браце, мне цяпер, як парасяці ў мяшку — не пескні! Агранома прыслалі, Сінічку. Толькі дзён дваццаць у нас пабыла, а што нарабіла! Прыехала і загадала перачысціць усё насенне. Перачысцілі. Пачала чытаць для калгаснікаў лекцыі па агратэхніцы. Хаджу і я на гэтыя лекцыі. Хаджу, слухаю, пацею ад думкі, што яйка курыцу вучыць... На адкрытым комсамольскім сходзе — больш ста чалавек прысутнічала — папрасіла яна мяне расказаць, як падрыхтаваўся калгас да вясны. Расказаў. Дык што ты думаеш? Як пачалі мяне крытыкаваць! Нібы па табе ў дваццаць цапоў малоцяць! А яшчэ насценгазету выпускаюць!.. Аж унутры ўсё гудзе... Калгаснікі за яе гарой стаяць! А дзе мой аўтарытэт? Скажы, дзе?

— Ад жыцця адстаў ты,—заўважыў Макацёру сябра.—Закасцянеў, застыў на адным месцы, вось таму так усё і атрымалася.

— Я пра гэта ўжо думаў,— прызнаўся Макацёр. — І трэба яшчэ падумаць... Чуў, як яна крытыкавала мяне сёння на раённай нарадзе? Вось табе і Сінічка!

# КОМСАМОЛЬЦЫ КАЛГАСА ІМЯ СТАЛІНА

**Нарыс**

Фота А. Дзітлава.

Вялікія прасторы займае калгас імя Сталіна Васілевіцкага раёна Палескай вобласці. Звыш дваццаці кіламетраў з брыгады ў брыгаду. І землі, і краявід — усё тут характэрнае для Палесся. Тарфяныя балоты, пакрытыя дробным хмызняком і нізкарослымі бярозкамі, сасновыя бары, гладкая роўнядзь палёў і толькі зрэдку дзе можна ўбачыць невысокі пясчаны ўзгорак...

Прыгожым тут бывае май. Усё пакрываецца зеленню. Маладзее стройны бярэзнік. Пакрываюцца кветкамі лугі. Балоты пачынаюць падсыхаць. Там, дзе нельга было прайсці вясной, калгаснікі дружна працуюць на асушцы балота.

Калісьці вада залівала куды большыя прасторы. Чалавеку не было дзе прайсці. Ён залежаў ад прыроды, ад яе літасці. І жыў тут чалавек у беднасці, у нястачы. Цяжка яму было ў адзіночку змагацца з прыродай, з беднасцю, што ад веку душыла яго. Але прышлі іншыя часы. Людзі аб'ядналіся ў калгасы, каб гуртам, калектыўна здабываць сваё шчасце, каб край балот і адвечных пустак ператварыць у край ураджайных соцыялістычных палёў. Калгаснікі Палесся добра памятаюць словы Янкі Купалы з паэмы «Над ракой Арэсай», што, «калі ступіў тут большэвік, ён змяніць гэты край». І гэта сапраўды так. На вачах мяняе свой воблік наша Палессе. Калгасны лад прынёс сюды новае жыццё — жыццё культурнае і заможнае. Совецкі лад і комуністычная партыя навучылі людзей, як змагацца за сваё шчасце, паказалі шляхі пераўтварэння прыроды.



Сакратар комсамольскай арганізацыі Мікіта Брэль.

Комсамолка Насця Васенда — звеннявая па тэхнічных культурах.



З першых дзён калектывізацыі калгас імя Сталіна прыступіў да асушкі балот. З дапамогай дзяржавы калгаснікі адваявалі ад прыроды звыш 400 гектараў цудоўнай урадлівай зямлі. Асабліва гэтая справа рушыла наперад, калі ў МТС, у меліяратыўных станцыях з'явілася новая, совецкая тэхніка, якая аблягчае працу чалавека.

У Васілевічах новаму чалавеку кожны з гордасцю пакажа на прасторы, што ляжаць за чыгункай:

—Гэта наш скарб!

Так, асушаныя землі даюць небывалыя тут ураджаі пшаніцы, жыта, тэхнічных культур, бульбы. У мінулым годзе тут збіралі па 25 цэнтнераў жыта з гектара, у той час як у другіх брыгадах ураджай намнога меншы.

Вось чаму з такой радасцю ўспрынялі калгаснікі дырэктывы XIX з'езда КПСС па асушцы Палескай нізіны. Па землях васілевіцкага калгаса пройдзе магістральны канал. Будзе асушана шмат гектараў балот. Колькі ўрадлівай зямлі набудзе калгас! І хоць яшчэ няма канчатковага плана асушкі, але людзі ўжо гатовы перайсці ў наступленне на балоты. Яны ведаюць, якое значэнне надаюць партыя і ўрад асушцы Палескай нізіны. Вось чаму з такім энтузіязмам бяруцца яны за работу.

Але найбольшую энергію ў параўтварэнні Палесся праяўляе цудоўная калгасная моладзь — комсамольцы. Пра яе не раз пісалі ў газетах. Яна выхавала такіх перадавікоў сельскай гаспадаркі, як Марыя Сопат, Вера Краўчанка, Галіна Лукашонак і многія другія. У кабінеце старшыні калгаса стаіць некалькі пераходных чырвоных сцягаў комсамольскай арганізацыі. Мікіта Брэль са здавальненнем пазірае на іх і, нібы ў чым апраўдваючыся, гаворыць:

— Гэта завяявалі да мяне, пры Варвары Науменка. Я толькі пяты месяц працую комсоргам. Цяпер яна закончыла вячэрнюю школу і вучыцца ў інстытуце ў Мазыры. Яна мела добры вопыт комсамольскай работы. Ды вось паехала. А Вера Краўчанка, Наташа Купчанка, Ксеня Шульга прыняты ў кандыдаты партыі. Калі-б не парторг наш Андрэй Лукіч ды не нашы старэйшыя комсамольцы, мне было-б зусім цяжка працаваць...

Сапраўды, брыгада ад брыгады знаходзіцца на далёкай адлегласці, а ў кожнай з іх ёсць свая комсамольская арганізацыя. Каб пабываць там, комсоргу трэба зрабіць немалы шлях. Ды і арганізацыя вялікая — больш за 80 чалавек налічвае яна.

Сакратар комсамольскай арганізацыі калгаса сціплы і ўдумлівы, добрасумленны і настойлівы юнак. Яму ўсяго 19 год. Яго характар ды і само жыццё — характэрны для тутэйшай моладзі. Яшчэ будучы вучнем сярэдняй школы, ён у летнія месяцы выходзіў на работу. Любяць падросткі свой калгас, а па іх сілах і ўменню справа заўсёды знойдзецца. Тры гады Брэль працуе як сталы мужчына. Быў і на палявых работах, і падвозчыкам корму на фермы, і стажорам, і прычэпшчыкам на трактары, і, нарэшце, асвоіў спецыяльнасць электраманцёра. І нідзе ніколі не быў ён адстаючым. 518 працадзён меў ён у мінулым годзе. І гэта пры тым, што шмат часу прыходзілася аддаваць грамадскай рабоце. Нядаўна яго абралі кандыдатам у члены пленума абкома комсамола.

Мікіта Брэль, як і многія васілевіцкія комсамольцы, умее спалучаць вытворчую і грамадскую работу. Дзе-б ён ні быў — ці ў полі, ці далёка на электралініі, але вечарам і раніцай абавязкова зойдзе ў ленінскі куток, дзе звычайна збіраецца моладзь. Калі не бывае сходаў, працуюць гурткі самадзейнасці. Тут і кнігі, і акардыён, і шашкі, і шахматы. Звіняць песні, музыка. Хор калгаса імя Сталіна, які ў асноўным складаецца з комсамольцаў, не раз адзначаўся на абласных і рэспубліканскіх аглядах мастацкай самадзейнасці. Яго песні гучаць па радыё. Хор славіцца далёка за межамі раёна. Маладыя комсамольцы ахвотна ўдзельнічаюць у мастацкай самадзейнасці.

Калі-ж неабходна правесці якое-небудзь важнае мерапрыемства, сакратар выязджае ў брыгады. Праводзіць там сходы комсамольцаў, дапамагае комсоргам. Да пасяўной праведзены агульны сход, па групах — таксама. Усе комсамольцы ўзялі на сябе соцыялістычныя абавязацельствы па павышэнню ўраджайнасці, па ўмацаванню калектыўнай гаспадаркі.

Комсамольская арганізацыя васілевіцкага калгаса, разам з усімі калгаснікамі, спаборнічае з суседнім калгасам «Запаветы Леніна» Каравіцкага сельсовета. Аднойчы на адкрытым комсамольскім сходзе быў заключаны соцдагавор. Даклад зрабіў парторг калгаса Андрэй Науменка. Выступілі комсамольцы і ўзялі на сябе канкрэтныя соцабавязацельствы. Сход вылучыў найбольш актыўную комсамолку Вару Белую, члена праўлення калгаса, для паездкі ў складзе дэлегацыі ў калгас «Запаветы Леніна».

— Вось паедзем да іх, абавязкова паедзем, — кажа Мікіта Брэль. — Паглядзім, як там працуюць комсамольцы. Самі стараемся, але і ў людзей павучымся.

Калі гутарка заходзіць аб рабоце другіх калгасных комсамольскіх арганізацый, Брэль становіцца занадта самакрытычным. Яму здаецца, што ўсё там пастаўлена лепш: і агратэхвучоба, і прапаганда рашэнняў XIX з'езда КПСС, і мастацкая самадзейнасць. Магчыма, у асобных выпадках гэта бывае і так. Але ў васілевіцкім калгасе імя Сталіна комсамольцы могуць ганарыцца і сваімі вытворчымі поспехамі, і самадзейнасцю, і агітатарамі, якія праводзяць вялікую грамадскую работу на вёсцы. Трэба толькі ўмацоўваць гэтыя поспехі, пашыраць іх, і калгас заўсёды будзе перадавым.

Цяперашняя калгасная моладзь — гэта актыўныя пераўтваральнікі жыцця, людзі высокай свядомасці, культурныя і пісьменныя. У кожным калгасным доме ў Васілевічах ёсць радыё, электрычнасць, кнігі і газеты. Моладзь мае дома свае бібліятэкі, вучыцца ў вячэрняй школе, выпісвае часопісы і газеты. Спецыяльнасцямі яна авалодала такімі, якія патрабуюць адукацыі, ведаў, як агранамічных, так і тэхнічных. Трактарыст, электраманцёр, радыётэхнік, ветэрынарны ўрач, звеннявая па тэхнічных культурах — гэта ўжо не навіна для такога калгаса, як калгас імя Сталіна. Ствараецца сапраўдная калгасная інтэлігенцыя, якая расце ў працэсе працы. Разам з тым, расце яе культура, свядомасць, адносіны да грамадскай уласнасці.

Вера Краўчанка атрымлівае па 26 цэнтнераў жыта з гектара, па 223,6 цэнтнера бульбы. На яе грудзях красуецца ордэн Леніна і два медалі. Яна — дэпутат абласнога Совета.

Апрача Веры Краўчанка, Мікіты Брэля, Вары Белай і другіх, можна яшчэ назваць прозвішчы дзесяткаў комсамольцаў, якія сталі сапраўды інжынерамі сваёй справы, па якіх раўняюцца ўсе калгаснікі.

Напрыклад, даярка Наташа Купчанка выпрацавала за год 600 працадзён. «Наша стаханаўка» — называюць яе калгаснікі.

Мікола Гвоздзь—звычайны ездавы ў брыгадзе. Але ён прыклад для ўсіх: актыўны комсамолец, добры грамадскі работнік, агітатар.

Комсамолка Насця Васенда, звеннявая па тэхнічных культурах, сваёй самаадданай працай заваявала вялікую пашану і аўтарытэт сярод калгаснікаў.

Такіх прыкладаў росту вясковай моладзі ў калгасе імя Сталіна можна знайсці шмат.

У гэтым годзе комсамольцы разам з усімі калгаснікамі будуць змагацца за атрыманне ўраджаю збожжавых у сярэднім па 18 цэнтнераў з гектара, па 180 цэнтнераў бульбы. Зразумела, будуць тут і перадавікі. І комсамольцы ўпэўнены, што найбольшая колькасць перадавікоў будзе сярод членаў ленінска-сталінскага комсамола.



Даярка Наташа Купчанка выпрацавала за год 600 працадзён.

Вара Белая, член праўлення калгаса.



Ксеня Шульга, як і многія другія старэйшыя комсамольцы, прынята ў кандыдаты партыі.



# БАРЫС ЦАРЫКАЎ



П. РУНЕЦ

Быў ясны чэрвеньскі дзень. Па небе плылі рэдкія белыя хмурынкі. Праз адчыненае акно ў пакой дыхаў свежы ветрык. Царыкавы чакалі са школы Барыса: сёння ён здаваў апошнія экзамены.

— Ну, як здаў, сынок? — пацікавілася маці, калі сын прышоў дадому.

— Два прадметы на чацвёркі, астатнія — на пяцёркі, — адказаў сын.

— Малайчына... — пахваліў бацька і, падышоўшы да Барыса, дадаў: — Варта, маці, у Клёнкі яму паехаць. Няхай адпачне...

Клёнкі — адзін з лепшых дамоў адпачынку на Гомельшчыне, размешчаны ў маляўнічай мясцовасці на беразе Сожа.

Барыс любіў і рэчку, і лес.

— Вось там я палаўлю рыбы!—узрадаваўся ён.

Але яго марам не суджана было здзейсніцца.

Пачалася Вялікая Айчынная вайна, і жыццё прыняло іншы кірунак. Праз горад на захад рухаліся войскі, ішлі эшалоны з гарматамі, танкамі.

З болем у сэрцы пакідалі савецкія людзі родныя мясціны і ехалі на ўсход. Царыкавы таксама эвакуіраваліся ў горад Рцішчава Саратаўскай вобласці. Папрацаваўшы крыху на новым месцы, бацька Барыса, Андрэй Царыкаў, папрасіўся зноў у Беларусь, каб з тылу біць фашысцкіх нелюдзяў.

Увосень 1941 года ў горадзе Рцішчава спыніліся вайскоўцы. У Царыкавых размясціўся палкоўнік — камандзір часці. Ён вельмі хутка здружыўся з Барысам. Вяртаючыся ўвечары на кватэру, палкоўнік звычайна пытаў:

— Што чуваць, Барыс, па радыё?

І Барыс, які амаль не адыходзіў ад прыёмніка, падрабязна расказваў пра зводку Совінформбюро, пра жорсткія баі пад Масквой.

Перад ад'ездам камандзір сказаў маці:

— Вашага сына, Елізавета Яфімаўна, я палюбіў... Надта ён падабаецца мне...

Калі-ж вышаў палкоўнік з хаты, сын горача сказаў:

— Мама, адпусці мяне ў войска. Не магу я сядзець дома, калі тата ваюе. Адпусці, бо я пайду сам. Пачаплюся на цягнік і паеду. Не з гэтай часцю, дык з другой...

Маці глянула на сына і па выразу рашучасці на яго твары, па задорнаму агеньчыку ў вачах зразумела, што спрачацца з ім дарэмна.

— Ты-ж яшчэ хлапчук...

А ўсё-ж дазволіла.

У складзе групы Барыс Царыкаў апынуўся ў тылу ворага, на Віцебшчыне. Тут ён убачыў, як вораг руйнуе нашы гарады і вёскі, расстрэльвае савецкіх людзей, малых і старых. І ў яго загарэлася яшчэ большая нянавісць да фашысцкіх захопнікаў, жаданне адпомсціць ім за слёзы і пакуты народа.

Знаходзячыся ў партызанскім атрадзе «Баці», Барыс Царыкаў стаў адным з лепшых разведчыкаў. Ён пранікаў у варожыя гарнізоны і прыносіў каштоўныя звесткі аб ворагу, аб варожых умацаваннях.

Аднойчы Барысу Царыкаву з групай партызан даручылі ўзарваць варожы цягнік. Гэта было цяжкае заданне. Гітлераўцы моцна ахоўвалі чыгуначныя пуці. Партызаны апранулі маскхалаты, падпаўзлі да чыгункі. Барыс падклаў міну пад рэйку. Пакуль яны ляжалі, узнялася завіруха. Халодны вецер пранізваў да касцей. Але Барыс Царыкаў і яго сябры ўпарта чакалі. Праз нейкі час паветра скалынулася ад грукату і лязгату жалеза. Заданне было выканана.

Пазней, высветлілася, што ў час крушэння фашысцкага эшалона знішчана 12 танкаў, шмат іх пашкоджана.

Адважны юны партызан быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Гэта была яго першая ўзнагарода.

Для атрымання ордэна Барыс Царыкаў быў выкліканы ў Маскву. Яму ўручаў баявую ўзнагароду сам Міхаіл Іванавіч Калінін. Міхаіл Іванавіч пацiснуў руку маладому партызану і пажадаў яму поспехаў у жыцці і баявой дзейнасці. Тут-жа Барысу прапанавалі адпачынак, але ён адмовіўся.

— Адпачываць буду пасля вайны, — сказаў ён.

З Масквы Барыс на некалькі дзён заехаў да маці.

Маці глядзела на сына і не верыла сваім вачам. За час ростані ён вырас, узмужнеў, пасталеў. Высокі, шырокаплечы, у шэрым салдацкім шынялі і шапцы-вушанцы, ён выглядаў дарослым чалавекам. Такім яна і хацела бачыць сына.

Маці пачала распытваць, за што яму далі ордэн, як жылося ў партызанах. Барыс з захапленнем апавядаў аб баявым жыцці. Яна слухала, і ў яе сціскалася сэрца... Барыс такі малады і такі адважны. Яна не ўстрымалася і сказала:

— Барыс, асцерагайся, сынок...

Твар сына адразу стаў сур'ёзным, за лапочаным.

— Трэба, мама, вярнуцца ў родны Гомель, убачыць свой дом, Дняпро... Ні аднаго захопніка не павінна быць на нашай зямлі!

На развітанне ён прызнаўся, што рашыў добраахвотна пайсці ў Чырвоную Армію. Прага вызваліць сваю зямлю, прага барацьбы клікала яго туды, дзе вырашаўся лёс Радзімы, яго асабісты лёс. Маці зноў ласкава праводзіла сына.

У арміі Барыс Царыкаў праявіў сябе смелым, мужным воінам. У хуткім часе яго ўзнагародзілі другім ордэнам Чырвонага Сцяга.



Герой Совецкага Саюза комсамолец Барыс Царыкаў.

Увосень 1943 года Барыс Царыкаў са сваёй часцю падышоў у раёне горада Лоева да роднага Дняпра. Для фарсіравання ракі была створана комсамольская дэсантная група. Комсоргам гэтай групы быў вызначаны Барыс Царыкаў. Яму было даручана ўстанавіць чырвоны сцяг на самым высокім месцы правага берага Дняпра. Вось як апісваліся баявыя справы Барыса ў час гэтай аперацыі ў заметцы «Ефрэйтар Барыс Царыкаў— герой Дняпра», змешчанай у армейскай газеце:

«У памятную раніцу нашы лодкі рынуліся да правага берага. На адной з іх быў Царыкаў.

Пачаўся штурм першай паласы фашысцкіх траншэй. Ворагі вялі ярасны агонь з крутых узгоркаў, якія ўзвышаліся над берагам. Царыкаў спрытна перапаўзаў з месца на месца, засякаючы варожыя агнявыя кропкі. А сувязі з левым берагам яшчэ не было. Царыкаў, доўга не раздумваючы, на старэнькім чаўне перапраўляецца на левы бераг, паведамляе ў штаб сабраныя ім звесткі і зноў плыве назад... Восем разоў у гэты дзень перапраўляўся Царыкаў пад страшэнным агнём з берага на бераг.

Пераправа зроблена паспяхова! Пачаліся баі за расшырэнне плацдарма. Першым у ярасных атаках урываўся ў траншэі ворага ефрэйтар Барыс Андрэевіч Царыкаў».

За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў час фарсіравання Дняпра і ўтрыманне плацдарма на яго правым беразе, совецкі ўрад дастойна ўзнагародзіў юнага героя.

Наколькі Барыс Царыкаў быў смелым і бясстрашным у баі, настолькі ён быў сціплым. Ён не любіў хваліцца сваімі франтавымі подзвігамі. Пра такую знамянальную падзею, як прысваенне яму звання Героя Совецкага Саюза, юнак у пісьме да маці напісаў толькі некалькі слоў:

«Добры дзень дарагія мама і сястра! Паведамляю вам радасную вестку: Указам Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР ад 30 кастрычніка 1943 года мне прысвоена званне Героя Совецкага Саюза».

Пятнаццатага лістапада 1943 года семнаццацігадовы Герой Совецкага Саюза Барыс Царыкаў загінуў. Над свежай магілай героя байцы пакляліся жорстка адпомсціць і адпомсцілі ненавіснаму ворагу.

Пахаваны Барыс у горадзе Лоеве, на скверы, недалёка ад Дняпра. Лоеўскія піонеры, ушаноўваючы памяць юнага героя, ля яго магілы пасадзілі ясені. Дрэўцы буйна растуць. Вясной яны прыбіраюцца ў пышны зялёны ўбор. Калі дыхне вецер, дрэўцы пачынаюць варушыць тонкімі галінкамі і пацішу шапацець лісцем. І здаецца тады, што ў гэтым шуме чуецца расказ аб подзвігах юнага героя, які аддаў самае дарагое, што ў яго было, — сваё маладое жыццё за свабоду і незалежнасць нашай совецкай Радзімы, якую ён бязмежна любіў і за якую адважна змагаўся.

Георгі ШЧАРБАТАЎ

# ДОЧКІ ЗАСЛОНАВА



Муза і Іра Заслонавы ў дні Вялікай Айчыннай вайны.

Гэты мужны чалавек бясконца любіў дзяцей. Любоў яго была глыбока пяшчотнай і шчырай. Дзеці адчувалі гэта і ўвесь час гарнуліся да яго. Канстанцін Сяргеевіч купляў сваім галубкам, як ён называў дочак, цікавыя кніжкі, цацкі, любіў вазіць на матацыкле, часта гуляў з імі ў садзе чыгуначнікаў.

У суровую восень сорак першага года Заслонаў расстаўся з сям'ёй. Але і ў тылу ворага ён не забываў пра сваіх дзяцей. У адным з пісем, нямаведама якім чынам перапраўленым праз лінію фронта, ён пісаў жонцы:

«Дзяцей выхоўвай так, каб мяне помнілі і любілі, таму што галубак маіх я вельмі люблю, маіх дзяўчынак, глядзі, беражы... Раскажы ім, няхай яны ведаюць, што іх тата пайшоў біць фашыстаў».

У нагрудная кішэні кіцеля ён заўсёды насіў фотаздымак дзяцей. Партызаны не раз бачылі, як камандзір даставаў запаветны здымак і падоўгу ўглядаўся ў дарагія рысы дочак. Паказваючы картачку каму-небудзь з партызан, ён звычайна гаварыў:

— Мае галубкі...

Са здымку па-дзіцячаму проста і даверліва глядзелі дзве дзяўчынкі, большай з якіх было не звыш сямі год.

Летам сорак другога года партызанская брыгада Заслонава вяла жорсткія няспынныя баі з акупантамі. Але і ў гэты час Канстанцін Сяргеевіч знаходзіў мінуту, каб даць вестку дадому, на Вялікую зямлю. У жніўні ён пісаў: «Хочацца вас вельмі бачыць, калі буду жывы — убачымся, загіну — значыцца за Радзіму, так і растлумач дочкам...»

Канстанціну Сяргеевічу не давялося больш сустрэцца са сваімі дзецьмі: за іх шчасце, за шчасце ўсіх савецкіх людзей ён аддаў сваё жыццё.

Дзяцей Канстанціна Сяргеевіча Заслонава ўвагай і клопатамі акружылі і народ і савецкая ўлада. Як і тысячам другіх сірат, наша дзяржава стварыла ім усе ўмовы для жыцця і вучобы.

Мы прышлі да Заслонавых пад вечар. З гасцінай несліся меладычныя гукі піяніна. Невысокая дзяўчына з прыгожымі блакітнымі вачыма і прыемнымі рысамі бялявага твару сядзела за піяніна і выконвала адно з практыкаванняў. Яна ўзнялася нам насустрач, і мы пазнаёміліся.

— Муза, — сказала яна.

Яна, як відаць, закончыла заданне па музыцы і запрасіла нас у другі пакой.

Мы разгаварыліся. Муза Заслонава расказала, што яна займаецца на першым курсе Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна і выбрала сабе спецыяльнасць журналіста.

— Чаму вы рашылі стаць журналісткай?

Яна памаўчала, абдумваючы адказ, потым расказала. Год назад яна, як і дзесяткі яе сяброў-дзесяцікласнікаў пакутліва думала над тым, кім быць... Усё вабіла дзяўчыну—і тэатр, і кінамастацтва, і рамантыка прафесіі геолагаў-разведчыкаў, і праца інжынераў — пераўтваральнікаў прыроды. Безліч сонечных дарог клікала яе наперад. І яна ведала, што, па якой з іх ні пойдзеш, усюды чакае радасць жыцця і працы.

Але асабліва яна любіла мастацтва і літаратуру. Гэтая любоў перадалася ёй ад бацькі, Канстанціна Сяргеевіча, які захапляўся тэатрам, сам добра маляваў, многа чытаў мастацкай літаратуры.

Аднойчы Муза ўзяла ў бібліятэцы кніжку Юліуса Фучыка. З яе старонак перад комсамолкай паўстаў мужны вобраз самаадданага барацьбіта, палымянага журналіста Юліуса Фучыка, які аддаў усяго сябе служэнню свайму народу. Кніга гэтая канчаткова вырашыла яе лёс.

— А таксама... пра гэта, можа, не трэба гаварыць, — кажа Муза, — але я хачу напісаць кнігу пра свайго бацьку. Я ведаю, што для гэтага трэба многа і ўпарта вучыцца...

Муза Заслонава сапраўды вучыцца старанна, настойліва авалодвае ведамі. У час зімовай экзаменацыйнай сесіі ўсе экзамены яна здала на выдатна. Цяпер на яе сталі кнігі пра Леніна і Сталіна. Для сваіх пісьмовых курсавых работ па літаратуразнаўству і сучаснай беларускай мове яна выбрала тэмы, звязаныя з самымі дарагімі і блізкімі для савецкай моладзі імёнамі. Гэта — «В. І. Ленін і І. В. Сталін у творах М. Горкага» і «Устойлівыя словазлучэнні, звязаныя з імем І. В. Сталіна». З якім натхненнем піша студэнтка аб геніяльных правадырах, стваральніках народнага шчасця Уладзіміру Ільічу Леніне і Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіне!

Настойліва рыхтуецца Муза Заслонава да летняй экзаменацыйнай сесіі. Але трацячы многа часу на вучобу, яна не адасабляецца ад калектыва. Вясёлая і няўрымслівая, яна першы завадатар ў групе, удзельнік студэнцкага драматычнага калектыва. Нездарма студэнты выбралі яе сваім культгрупоргам. Муза наладжвае калектыўныя паходы моладзі ў кіно, у тэатры, на рознастайныя канцэрты. Некалькі разоў яна глядзела ў тэатры імя Янкі Купалы спектакль «Канстанцін Заслонаў». Вобраз Канстанціна Сяргеевіча Заслонава, яе роднага бацькі, стаў для дачкі прыкладам беззаветнага служэння свайму народу, сваёй Радзіме.

...Муза спяшалася ва універсітэт на вечар, і мы спыталі:

— А дзе ваша сястра?

— Іра, ідзі сюды! — паклікала Муза.

У пакой увайшла дзяўчынка год трынаццаці. Гэта меншая дачка Заслонава. Яна вучыцца ў шостым класе 20-й чыгуначнай школы Мінска. Іра з гонарам паказвае нам табель сваёй паспяховасці. Па большасці прадметаў яна мае пяцёркі, а па некаторых — чацвёркі. Адначасова Іра займаецца ў Мінскай музычнай школе.

Жыццерадасная, непаседлівая, яна з ахвотай расказвае нам пра сваю вучобу, пераскоквае з тэмы на тэму, прыносіць кнігі, якія прачытала ў гэтым годзе. Тут і «Як гартавалася сталь» Н. Астроўскага, і кнігі А. Гайдара, і апавяданні А. Панцялеева, і шмат іншых.

Нядаўна газета «Зорка» змясціла фотаздымак Іры Заслонавай разам з яе сяброўкай па класу. І вось Іра бяжыць у другі пакой і прыносіць газету.

— Вось глядзіце, — з дзіцячай непасрэднасцю паказвае яна здымак, а потым дастае з кіпы пісем складзены трыкутнікам ліст. Яна атрымала яго ад вучаніцы з вёскі Ліплянск, Багушэўскага раёна, Мілеты Баркоўскай. Тая піша: «Ірачка, я прачытала пра твае поспехі ў вучобе і рашыла табе напісаць. У нашай вёсцы помняць твайго тату. Ён тут біў фашыстаў у 1942 годзе. Нашы калгаснікі гавораць пра яго з вялікай павагай. Іра, я вучуся ў шостым класе. У мяне таксама няма бацькі. Ён пайшоў на фронт і там загінуў. Маці мая памерла. Я жыву ў цёткі. Вучуся старанна. Пішы, як ты жывеш. Прыязджай да нас у госці. У нас летам вельмі прыгожа».

Так завязалася гэтая шчырая перапіска двух дзяўчынак, бацькі якіх аддалі сваё жыццё ў барацьбе за чэсць і незалежнасць нашай Радзімы.

У пакой увайшла маці, Раіса Аляксееўна. Яна запытала пра ўрокі.

— Мама, сёння па літаратуры я буду чытаць пра нашага тату, — сказала дачка. — Хочаш паслухаць?

— Чытай, дачушка, і вучыся так любіць сваю Радзіму, як любіў яе твой тата.





**Некалькі разоў Муза і Іра глядзелі ў тэатры імя Янкі Купалы спектакль аб сваім бацьку Канстанціне Сяргеевічу Заслонаве, вобраз якога па-майстэрску стварыў народны артыст Саюза ССР Б. Платонаў.** (На здымку крайні злева.)

I. НІСНЕВІЧ

# ПЕСНІ ШЧАСЦЯ

**Нарыс**

Усе трое жывуць ва ўтульным пакоі, у невялікім доміку на вуліцы Куйбышэва. Яны разам ходзяць на працу. А праца гэтая, на першы погляд, незвычайная — спевы. Дзяўчаты разам адпачываюць, бываюць у кіно, абмяркоўваюць кнігі, спектаклі. Усе яны маладыя па колькасці пражытых гадоў, па жыццёваму вопыту, па пройдзенаму шляху ў мастацтве, па рабоце ў самым маладым у Савецкім Саюзе прафесіянальным мастацкім калектыве.

Маладая па стажу і іх дружба. Ёй столькі-ж месяцаў, колькі існуе Беларускі дзяржаўны народны хор. На адборачных экзаменах у гэты хор тры дзяўчыны пазнаёміліся і пасябравалі.

Што іх зблізіла — дзяўчаты яшчэ не ўсвядомілі. Магчыма, агульнае вялікае жаданне спяваць, радаваць і натхняць да працы нашых савецкіх людзей. Магчыма, што характары ўсіх трох дзяўчат узаемна дапаўняюцца. А магчыма і тое, што вельмі рана ў жыцці яны ўсе трое пазналі горач няшчасця, нядолі, а ў калектыве, нават невялічкім, лягчэй залечваюцца раны.

Галіне Дзямковай мінула сем год, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна. Бацька яе — палескі калгаснік — разам з мільёнамі савецкіх людзей пайшоў на фронт абараняць Радзіму.

Варожыя орды ўварваліся на Палессе. Радзіма, партыя паднялі на барацьбу і астатніх членаў сям'і Апанаса Дзямкова. Праз некаторы час Галя засталася круглай сіратой: на фронце загінуў бацька, а ў Лельчыцах карнікі расстралялі як партызан усіх яе родных.

Савецкія людзі не далі асірацелай Галі загінуць, — яны кармілі і апраналі яе, і калі настаў шчаслівы час вызвалення Беларусі, накіравалі дзяўчынку ў дзіцячы дом.

Прайшло некалькі гадоў, і Галя Дзямкова — жывёлавод у калгасе. Потым яе накіроўваюць на курсы работнікаў грамадскага харчавання. Паступова жахі вайны пачынаюць адыходзіць у нябыт. Галя захапляецца самадзейным мастацтвам, з любоўю ўспамінае і спявае тыя народныя песні, якія чула яшчэ ад маці, вывучае новыя і, нарэшце, становіцца актыўнай удзельніцай усіх раённых і абласных аглядаў народнага мастацтва Палесся.

Калі ў маі — чэрвені мінулага года кіраўніцтва Беларускага дзяржаўнага народнага хора, які тады арганізоўваўся, паслала ў Дамы народнай творчасці пісьмы з просьбай вылучыць кандыдатаў для камплектавання гэтага калектыва,—адным з першых было названа імя Галіны Дзямковай.

Галя іншы раз многа смяецца, любіць ва ўсім бачыць вясёлае, а Станіслава Філіповіч больш стрыманая, разважлівая і сур'ёзная. Ды ёй, бадай што, трэба быць такой, — яна-ж у пакоі самая старэйшая, — ёй дваццаць тры гады.

Маленства мінчанкі Станіславы Філіповіч таксама прайшло ў дзіцячым доме. Яна таксама сірата. Пасля дзіцячага дома Станіслава паступіла ў школу ФЗН ткачых у горадзе Шуя і закончыла яе паспяхова. Калі ў Віцебску пачаў працаваць адзін з буйнейшых у краіне дыванова-плюшавых камбінатаў, маладая ткачыха Філіповіч стала адной з яго перадавых работніц.

Таксама, як радасна было Станіславе ўпрыгожваць дыванамі кватэры савецкіх людзей, радасна было і спяваць для іх. Жаданне гэтае ў спалучэнні з прыгожым чыстым голасам далі магчымасць перадавой ткачысе стаць удзельніцай маладзёжнага народнага хора.

Трэцяя іх сяброўка — Вера Праневіч. Жыццё не было такім бязлітасным да яе — вайна ў яе не адабрала родных. Але Вера толькі ва ўзросце васьмі год пачала разумець, што такое шчаслівае маленства. Яна нарадзілася ў вёсцы Вялікае Падлессе Баранавіцкай вобласці ў 1931 годзе і да знамянальнага дня 17 верасня 1939 года жыла пад прыгнётам польскіх паноў. І вось, калі Вера зразумела нарэшце, што такое маленства ў савецкай краіне, Вялікае Падлессе зноў апынулася ў няволі, на гэты раз — пад ботам гітлераўскіх захопнікаў. Зноў для дзяўчынкі насталі дні галечы...

Савецкая Армія, прагнаўшы фашысцкіх захопнікаў з нашай зямлі, вярнула Веры Праневіч яе юнацтва, права спяваць песні пра шчасце савецкага народа. Яна спявала гэтыя песні ў роднай вёсцы, у калгасе імя Леніна. Яна спявала гэтыя песні і ў Маскве, куды ездзіла разам з вядомым хорам Вялікага Падлесся славіць нашу краіну на ўсесаюзных аглядах народнага мастацтва.

Зусім зразумела, што калі арганізоўваўся Беларускі дзяржаўны народны хор, Вера Праневіч пайшла ў яго з вялікай радасцю.

Беларускі дзяржаўны народны хор, якім кіруе заслужаны дзеяч мастацтва БССР Г. Цітовіч, налічвае больш васьмідзесяці маладых спевакоў, танцораў і музыкантаў.

Можна беспамылкова сказаць, што таксама, як і тры сяброўкі — Галя, Станіслава і Вера, усе дзяўчаты і хлопцы хора прынеслі з сабою ў калектыў голас маладосці, нястрымнае імкненне тварыць на карысць сваёй Радзімы, адухоўленасць і каларыт народнага мастацтва.

Гэтыя якасці характэрны для ўсіх тых, што прышлі ў Беларускі народны хор, як пасланцы самадзейнасці горада ці вёскі, прадпрыемства ці калгаса. Таленавітая моладзь у песнях раскажа аб жыцці свайго народа: цяжкім мінулым і радасным сучасным роднай Беларусі. Калі чуеш і бачыш цудоўнае, хоць яшчэ і не зусім дасканалае майстэрства Беларускага дзяржаўнага народнага хора, з асаблівай упэўненасцю верыш у творчае прызванне гэтых маладых пасланцоў народа служыць у прафесіянальным мастацтве нашай Радзіме.

... Адкрываецца заслона, і перад гледачамі паўстае цудоўная маладосць вольнай, шчаслівай Беларусі. Дзяўчаты і юнакі ў яркіх нацыянальных касцюмах песнямі, танцамі, у гуках самабытнага аркестра адкрываюць лепшыя старонкі духоўнага жыцця свайго народа, братніх народаў вялікага Савецкага Саюза.

Вось гучыць велічная ў сваёй прастаце і народнай мудрасці песня аб Сталіне — творцы нашай дзяржавы, льюцца адухоўленыя геніем народа гукі гродзенскай «Рэчанька, рэчанька», жартоўнай песні з Бабруйшчыны «Хацела-ж маці мяне замуж аддаці», палескай — «Ды ў зялёнай дуброве», мінскай — «За барамі, за лясамі», баранавіцкай — «Ой ты, белая бяроза» і многіх іншых. Вось праносяцца ў віхры «Юрачкі», «Лядкаўскай» і «Пясочанскай» кадрыляў танцоры ансамбля народнага хора, гучыць беларуская полька...

Новыя песні змяняюцца новымі танцамі, прыпеўкі — аркестровымі п'есамі, сучасныя народныя песні-танцы — традыцыйнымі, беларускія — рускімі, рускія — украінскімі.

І верыш, што творчасць гэтай моладзі невычарпальная, як невычарпальнае жыццё народа. Верыш, што партыя, народ, якія адчынілі гэтай моладзі шлях у мастацтва, давядуць яе да тых вяршынь майстэрства, калі само мастацтва становіцца жыццём.



Беларускі дзяржаўны народны хор.

Фота Ул. Дагаева.



**Выступленне Беларускага дзяржаўнага народнага хора пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Г. Цітовіча. Запяваюць Марыя Ефаненкава** (злева) **і Зінаіда Бычкова.**

**Фота А. Дзітлава.**




Яна таксама гатова на дэманстрацыю.

Фотаэцюд А. Дзітлава.

М. БАРСТОК

# ВОБРАЗ НАШАГА СУЧАСНІКА

Пімен Панчанка — адзін з вядомых совецкіх паэтаў. Паэзію яго асабліва любіць наша моладзь.

Аднагодак Кастрычніка, паэт паказаў у сваіх вершах і паэмах тыповы вобраз маладога совецкага чалавека, які расце і мужнее разам з ростам сваёй Радзімы.

Характэрнай асаблівасцю паэзіі Панчанкі з'яўляецца глыбокі лірызм, свежасць, паэтычнасць вобразнай сістэмы.

У цэнтры ўвагі паэта на ўсіх этапах яго творчасці — малады чалавек-патрыёт, воін і працаўнік. У даваеннай творчасці Панчанкі ён паўстае перад намі яшчэ зусім юным, рамантычным, цікаўным і крыху наіўным. Ён закаханы ў наша жыццё, ён любіць і тонка адчувае родную прыроду. Яго хвалююць пышнае цвіценне вясны, глыбокі блакіт неба, творчая праца, вучоба, радасная сустрэча з каханай. Патрыятычныя пачуцці, любоў да Радзімы і сыноўняя вернасць ёй — асноўнае ў светаадчуванні героя.

У адным з сваіх ранніх вершаў Пімен Панчанка глыбока раскрывае духоўны свет юнака, яго думы і пачуцці, тыповыя для маладых людзей нашай краіны:

О, Радзіма, табою напоўнена сэрца да краю,
І заўжды — ці працую, ці пільна на варце
стаю, —
Я твой велічны вобраз у думках сваіх
уяўляю
І люблю, як жыццё, я зямлю маладую тваю!
Бо на гэтай зямлі малаком мяне маці
карміла,
Тут хадзіць я вучыўся і кнігі чытаў
да зары.
Што-ж мне можа быць больш за Радзіму
любімую міла?
Хто-ж мне будзе радней за таго, хто
Радзіму стварыў?

Я спакойны юнак, можа нават крыху
сарамлівы,
Не пакрыўджу і птушкі, бо знаю:
ёй хочацца жыць;
Але тых, хто жадае напасці на край мой
шчаслівы,
Я сваімі рукамі без жалю гатоў задушыць.

Вобраз Радзімы ўспрыймаецца лірычным героем П. Панчанкі ў гістарычным плане. Совецкая Радзіма, створаная вялікімі правадырамі Леніным і Сталіным, дала ўсе магчымасці чалавеку для яго ўсебаковага развіцця. З болем у сэрцы паэт гаворыць аб мінулым, аб пакутах нашых продкаў, адвечнай марай якіх была мара аб свабодным, шчаслівым жыцці, аб справядлівых дзяржаўных законах.

Зямля беларуская непазнавальна змяніла аблічча, расквітнела за гады совецкай улады. Аб радасным, мірным жыцці шуміць старадаўні беларускі бор, гамоніць калоссе, пяюць жнеі. І ўсюды паэт чуе дарагое імя Сталіна, правадыра і настаўніка, які сагрэў сваёй ласкай совецкіх людзей.

Здзейснілася светлая мара маці аб шчасці сына, аб яго будучыні. Ад імя ўсяго маладога пакалення герой П. Панчанкі заяўляе:

Я ўсім багат! Я — гаспадар
Палёў, лясоў, лугоў і рэчак.
Я атрымаў выдатны дар —
Правоў сапраўдных чалавечых.

Лірычны герой паэта выступае перад намі як актыўны чалавек, у дзеянні, у няспыннай працы на карысць Радзімы. Ён асушвае балоты, вырошчвае багаты ўраджай, гадуе на калгаснай зямлі сады. Ён дбае аб будучым сваёй краіны, аб жыцці наступных пакаленняў, і таму пільна стаіць на варце міру. Ён уважліва прыглядаецца да міжнароднай абстаноўкі, разумее, што «расце над светам цень вайны злачыннай», і рыхтуецца быць смелым і адважным воінам.

За час вайны яшчэ паўней раскрываецца веліч духу, сіла характару совецкага чалавека, выхаванага партыяй Леніна — Сталіна. Герой П. Панчанкі — гэта бясстрашны салдат, які ўзняўся на абарону любімай Радзімы, што ўзгадавала і выхавала яго. Ён — удумлівы, шчыры, вясёлы і жыццерадасны. Вайна не зрабіла яго жорсткім і бесчалавечным, не знішчыла ў ім лепшыя ўласцівасці душы.



Пімен Панчанка.

У вершах паэта выявіўся агульны настрой воінаў і партызан Беларусі на розных этапах вайны. Совецкі чалавек, дзе-б ён ні быў, адчувае гора і боль, ведаючы, што вораг топча родную зямлю, разбурае гарады і сёлы, забівае старых і дзяцей, гоніць людзей у няволю. Але разам з тым, герой Панчанкі не ўпадае ў адчай, не кідаецца ў паніку. Ён непахісна верыць у свой народ, у сілу і магутнасць совецкай дзяржавы.

Уся гісторыя Радзімы, яе слаўныя гераічныя традыцыі мінулага, яе невычэрпныя магчымасці ў сучасным падтрымліваюць у ім гэтую ўпэўненасць:

Веру цвёрда: сканае бязлітасны вораг,
І штандар перамогі над краем запаліць
зару.
Пакуль сонца не згасне,
Пакуль свецяцца зоры,
Беларусь не загіне, будзе жыць Беларусь!

Паэт стварае яркія вобразы совецкіх людзей, аб'еднаных адной думай, аднымі клопатамі — хутчэй вярнуць шчаслівыя, мірныя дні. Совецкі воін змагаецца супраць фашысцкіх акупантаў, каб выратаваць усё чалавецтва, выратаваць дзяцей — будучыню нашай Радзімы. З глыбокім пачуццём і спачуваннем ён гаворыць аб дзецях вайны, сон якіх трывожыць грукат гармат і танкаў.

За шчасце дзяцей, за спакойную старасць бацькоў і маці, за мірныя працоўныя будні ідзе ў бой совецкі воін, лірычны герой паэта, не шкадуючы сваіх сіл і свайго жыцця.

Звяртаючыся да Беларусі, ён з надзеяй гаворыць аб блізкай сустрэчы з роднымі мясцінамі, з гераічнымі і мужнымі яе абаронцамі:

...Я хутка к табе прыду,
Да грудзей набалелых тваіх прыпаду,
Пакланюся лясам і палеткам шырокім.
Толькі цяжка праходзіць апошнія крокі
Да цябе, мая Беларусь!

П. Панчанка паказвае свайго героя ў дзеянні, у гераічнай барацьбе за свабоду і чэсць Радзімы. Вось прабіраецца ў свой полк паранены разведчык. Перамагаючы боль і ўсе перашкоды, ён спяшаецца данесці здабытыя звесткі, выканаць свой абавязак. У шуме сосен яму чуецца стогн і плач маці па сваіх дзецях. Ён бачыць раны і пакуты Беларусі, жахлівыя малюнкі пажарышчаў і разбурэнняў. І ён клянецца адпомсціць ворагу за ўсё...

Паэт паказвае прыход воіна на знявечаную захопнікамі беларускую зямлю, яго жаданне хутчэй залячыць крывавыя раны вайны. Тут на першым плане глыбокае пачуццё хвалявання, гордасць за сваю Радзіму, за мудрага палкаводца таварыша Сталіна, які выратаваў нашу зямлю ад фашысцкай навалы.

Шчасце ёсць!
Паглядзіце на нашы сады —
Наліўныя плады сабіраюць садоўніка рукі,
Так і маці-Радзіма збірае свае гарады
Пасля бітваў цяжкіх,
Пасля доўгай і горкай разлукі.

У цыкле вершаў «Іранскі дзённік» асноўнай ідэяй з'яўляецца ідэя совецкага патрыятызма. Апынуўшыся далёка ад Радзімы, совецкі воін вастрэй адчуў сваю сыноўнюю любоў да яе, ён разумее сваю высокую місію чалавека новай фармацыі, новага свету:

Я — пасланец Рэспублікі Советаў,
Не заваёўнік, а жаданы друг.

У пасляваенны час паэтычнае майстэрства П. Панчанкі ўзнялося яшчэ на большую вышыню. Воін-вызваліцель вяртаецца дадому, да мірнай стваральнай працы. Узбагачаны жыццёвым вопытам, прайшоўшы праз цяжкія выпрабаванні вайны, ён стаў яшчэ больш мужным, яшчэ больш палітычна свядомым. Яго працоўныя будні асветлены марай аб цудоўнай будучыні нашай краіны. Ён не жадае сабе спакою. Ён ведае, што наперадзе вельмі многа працы і што ён ніколі не будзе ў абозе, у запасе, не будзе жыць сваімі ранейшымі заслугамі. Яго мэта — ахоўваць мір, змагацца за далейшае ўмацаванне дружбы народаў, за будаўніцтва комунізма:

Ён ідзе, комунізм!
Гэта свята не за гарамі.
Трэба кожны каб з нас
Сёння чэсна сябе запытаў:
«Ці зрабіў я, што мог?
Ці усё я Радзіме аддаў?»
Каб прыйсці ў комунізм
Яго першымі жыхарамі.

Лірычны герой П. Панчанкі — тыповы совецкі чалавек, наш сучаснік, з перадавым светапоглядам, з высокай мараллю. Ён убірае ў сябе лепшыя рысы нашага народа і разам з тым з'яўляецца жывой непаўторнай чалавечай індывідуальнасцю, жывым чалавечым характарам.

# Аб каханні гарачым

Гэты верш — справаздача
Бытавога характару
Аб каханні гарачым
Аднаго літаратара.

Не адзін перапынак
Прахадзіў калідорам ён,
Прастаяў пад дзвярыма
Ля яе аўдыторыі.

І яна пра каханне
Пра яго запаветнае
Не спытае, не гляне...
Эх, жыццё бессюжэтнае!..

Сум у сэрцы хлапечым,
Проза, самая шэрая.
Дома дзень ён і вечар,
Кніг абставіўся шэрагам.

Думы думае хлопец
Над праблемай вялікаю.
...І на сход камсамольцы
Свайго сябра паклікалі:

Што за справы ў яго там,
Чаго дома хаваецца
І чаму цэлы год ён
Так ад мас адрываецца.

Мо' прычыну-б ускрылі!..
І сабраліся там яны,
Шчыра з ім гаварылі
Пра вясну і экзамены.

Гаварыла дзяўчына,
Паглядаючы ласкава.
Гэты сход быў, магчыма,
Іхняй дружбы завязкаю,

Бо праз год на вяселлі
Мы былі ў інтэрнаце іх.
Я сказаць магу смела:
Там была кульмінацыя.

Над развязкай асобна
Нават думаць не хочацца:
Не раней — год праз сотню
Іх каханне закончыцца.

Ул. НЯДЗВЕДСКІ,
студэнт Беларускага дзяржаўнага
універсітэта імя В. І. Леніна.

# У скверы зялёным

У скверы зялёным
Пралегла дарожка,
У скверы ля клёнаў
Ёсць Гонару Дошка.

І часценька-часта
Пад гэтыя клёны
Прыходзіць віхрасты
Юнак задумённы.

Ён моцна і шчыра
Дзяўчыну кахае,
І знае дзяўчына,
Даўно гэта знае.

А толькі заходзіць
Аб гэтым размова —
Да смеху ўсё зводзіць,
І болей ні слова.

І зараз з партрэта
У рамцы прыгожай
Дзяўчына прыветна
Смяецца прахожым.

Смяецца таполям
І клёнам на скверы,
І хлопцу — не болей,
У гэткай-жа меры.

Юнак заклапочаны
Тоіць дакоры,
А погляд дзявочы
Нібыта гаворыць:

«Будзь побач са мною
На дошцы пашаны —
Я стану другою,
Дабрэйшаю стану».

Ні ліпы, ні клёны
Не чулі размовы,
А ён, акрылёны,
Згадзіўся на ўмовы:

Рашыў дабівацца
Увагі дзяўчыны
Стаханаўскай працай
На славу Айчыны.

І правільна, дружа!
Ні кроку з дарогі.
Сапраўдная дружба —
Сястра перамогі.

Ніл ГІЛЕВІЧ,
студэнт Беларускага дзяржаўнага
універсітэта імя В. І. Леніна.

А. ЯЛЕНЕЦ



# Іннасэс

Ёй крыху больш дваццаці год... вядома, па дакументах... У гутарцы-ж са знаёмымі яна без асаблівай цяжкасці скідвае са сваіх далікатных плечыкаў гадкоў пяць, — робіцца дзевятнаццацігадовай. У думках яна апраўдвае гэтую невялікую хітрыку, прыкладна, так: «Не хачу быць бабулькай. Ды і не буду, — у мяне маладосць, грацыя...»

Імя гэтай маладой асобы спачатку было самае звычайнае — Ніна... У тым вось і бяда, што завельмі яно звычайнае, празаічнае, без адпаведнай музыкі, без лёгкасці блакіту... «Ні-на!..» Прыслухайцеся, калі ласка, як вымаўляецца гэтае слова. Колькі ў ім недарэчнасці, — спачатку адмоўе «ні», а потым, адкуль ні вазьміся, — «на»... Зразумеўшы, што за трагедыя хаваецца ў адным гэтым імені, маладая асоба ўсклікнула:

— Фі! Не хачу быць Нінай! — І лёгкай пушынкай упаўшы на канапу, нервова задрыгала ножкамі.

Убачыўшы дачку ў такім страшэнным стане, мама спалохана пляснула ў далоні:

— Дачушка мая ненаглядная! Што з табой?! Не плач, золатка, вочкі зробяцца чырвонымі... Ну, вазьмі сабе імя, напрыклад... Імма. — І маці аж заззяла ад такой знаходкі.

— Імма?! Фі!.. — не згадзілася дачушка.

— Анунна...

— Фі!

— А-ні-но-чак... — таямніча прашаптала маці, баючыся нават гучным голасам пералякаць дзіцятка.

— Фі!.. — яшчэ раз пырхнула дачка і затраслася ад плачу.

На пошукі імя было затрачана некалькі дзён і многа слёз... амаль сухіх... Нарэшце імя было знойдзена.

— Іннэс! Я — Іннэс! — звінеў на ўсю кватэру галасок.

Нованароджаная Іннэс паглядзелася ў люстэрка. Ад захаплення цяжка было дыхнуць, — новае імя вельмі-ж прышлося да твару, цудоўна дапасоўвалася да колеру вачэй, было насычана мілагучнасцю, пяшчотай, такім нават... араматам!..

— Ін-нэс!.. О, Ін-н-нэс! Тра-ля-ля-ля!..

Набыўшы такое імя, нельга было абыйсціся без адпаведнай сукенкі. Без новага паліто таксама было нязручна. Наогул, спатрэбіліся раптам абноўкі, упрыгожанні...

Больш таго — Іннэс вырашыла, што з такімі дадзенымі, як у яе, адны толькі дзівачкі вучацца, і яна... пакінула наведваць інстытут. Неўзабаве, яшчэ раз удасканаліўшы імя, Іннэс стала Іннасэсай і выйшла замуж за Ціта Цітавіча Бязменава, які — ак-хе!.. ак-хе!.. — нажыўшы дыхавіцу, абагнаў сваю маладую жонку гадоў на дваццаць пяць... Урэшце, што там узрост!

— У мяне сэрца маладое, — смяецца Ціт Цітавіч.

І вось, Іннасэс — замужам, так сказаць, хатняя гаспадыня. Сядзіць яна на канапе, на каленях кошка Міурка мурлыча. Ля канапы ляжыць сабачка Зізі, які — о, няшчасце! — сёння чамусьці вельмі сумны. Настрой Зізі, няйнакш, перадаўся і гаспадыні, — Іннасэс амаль штохвіліны пакутліва ўздыхае, пазяхае, а ў вачах, да якіх так добра дапасуецца імя Іннасэс, шмат паэтычнай задуменнасці, лёгкасрабрыстай пакуты і залатога туману.

Іннасэс уважліва ўглядаецца ў люстэрка...

— Такія вочы толькі ў мяне... Нездарма Ціт Цітавіч ад іх страціў розум. — Празрыстабелай рукой з тонюткімі трошкі ружовенькімі пальчыкамі, на якіх блішчыць некалькі пярсцёнкаў, Іннасэс паправіла валасы. — А прычоску трэба змяніць, гэтая вышла ўжо з моды.

Прысвяціўшы некалькі творчых гадзін прычосцы і дастаткова стаміўшыся ад гэтай работы, Іннасэс вырашыла пазваніць мужу на працу.

«Я так пакутую адна дома, хоць-бы паспачуваў хто», — думала Іннасэс, набіраючы нумар тэлефона.

— Алё! Цінця?! Гаворыць твая крошка. Цінця!.. Цюцік ты мой маленькі! Я так сумую... — І вочы Іннасэс затуманіліся лёгкай паволокай. — Цінця! Прашу цябе, не затрымлівайся сёння позна на гэтай сваёй працы... Сходзім у тэатр... Няма білетаў?.. Як хочаш, а дастань! Купі ў каго-небудзь з рук. Пераплаці, а білеты каб былі! Потым, слухай, Цінця! Я зараз схаджу ў магазін, куплю пару панчох... Капронавыя, з чорнай пяткай... Ты толькі падумай: чорныя пяткі!!! А колер!! Ножка ў іх будзе зусім фігурная! Цела ў іх будзе нібы трошкі падсмажанае на сонцы. Гэта вельмі із'ячна! (Слова «изящно» Іннасэс вымаўляе на свой манер.) Дык я пайду, мой вусаценькі цюцік! Зізі, напэўна, захварэў. За ўвесь дзень ні разу хвосцікам не вільнуў. Я так непакоюся аб ім! А Міурка вясёлая. Я завязала ёй новую істужку. Вочы шэрыя, а істужка блакітная... із'ячна!.. Цалуй мае лапкі.

Паклаўшы трубку, Іннасэс засмяялася, — уявіла свайго Цінціка, які, напэўна, выцірае хустачкай узмакрэўшую лысіну, пакутуючы над тым, як дастаць сёння білеты ў тэатр...

— Ф-фо!.. — варкуючым галаском прамовіла Іннасэс. — Не трэба было жаніцца. Маладая жонка павінна быць акружана клопатамі, увагай, пяшчотай, абсыпана падарункамі.

Зрабіўшы пакупкі, Іннасэс выпадкова спаткалася на вуліцы з Лідай. Разам з ёй заканчвалі калісьці дзесяцігодку, а потым вучыліся ў інстытуце.

— Лі-дук! — усклікнула Іннасэс. — Фі! Я цябе ледзь пазнала.

Хаваючы ўсмешку, Ліда ўважліва разглядала Іннасэс, апрануту па своеасаблівай модзе.

— Што ты так дзіўна глядзіш на мяне, Лідук? — запытала Іннасэс.

— У мяне ёсць сапраўднае імя, я — Ліда, — быў адказ.

— Ну, не крыўдуй на мяне, — і Іннасэс рашыла задобрыць сваю колішнюю аднакласніцу: — Зойдзем да мяне, я дома адна. Так сумую, так сумую!..

— Што-ж зойдзем, — згадзілася Ліда. — Якраз мне трэба пагаварыць з табой.

Дома Іннасэс шчабятала адна за дзесяцёх. Спачатку кінулася паказваць Лідзе свае ўбранні, аднак сяброўку гэта не цікавіла. Тады пачала данімаць яе роспытамі:

— У цябе, Ліда, муж шмат атрымлівае? Тысячу?!.. Фі! Мой Цінця атрымлівае дзве тысячы. І, прызнацца табе, не заўсёды хапае грошай.

— Кажаш, «мой Цінця», — перабіла Ліда. — Гэта Ціт Цітавіч? А чаму ён твой? У яго-ж ёсць недзе жонка, дзеці!

— Фі! Дзеці! Ён з той разыйшоўся! Я за ім ужо цэлы год.

Ліда паківала галавой:

— Чорт пяць пар лапцей стаптаў, пакуль гэткую пару падабраў!

— Ты не ў гуморы сёння, — і Іннасэс пакрыўджана надзьмула губкі. — Я-ж не вінавата, што Цінця закахаўся ў мяне і... і папрасіў маёй рукі. Ён цудоўны суб'ект. Праўда, трошкі стараваты, затое адказны на працы, заробак у яго — пальчыкі абліжаць!..

Ліда схапілася за галаву...

— Што, занядужала? — запытала гаспадыня.

— У такім паветры я задыхнулася-б... — сказала Ліда.

— Ты пра што? — і ў вачах Іннасэс прамільгнуў спалох.

— Твае сябры, Ніна, і я асабіста вельмі вінаваты перад табой, — цвёрдым, пераканаўчым голасам гаварыла Ліда.

— Гэта — чаму-ж? — і дзве танюсенькія рысачкі-бровы палезлі ў Іннасэс высока на лоб.

— Вучыліся з табой разам у школе, — прадаўжала Ліда, — былі нават разам у комсамоле і прагледзелі, не ўбачылі, як ты вырасла лялькай, манекенам для модных сукенак. Усе твае аднакласнікі, усе знаёмыя сталі людзьмі, а ты...

— Што я?.. Што? — узгарэлася Іннасэс.

— Што ты?.. — перапытала Ліда, устаючы. — Ты — пустое месца, ты — нішто... мяшчанка.

Іннасэс задыхнулася ад нечаканасці.

Ліда-ж гаварыла далей:

— У твае гады... і жыць у некага на ўтрыманні! Разбіць чужую сям'ю! Жыць падобна вось гэтай кошцы. Урэшце, кошка прыносіць карысць — ловіць мышэй. А ты што?..

Не развітаўшыся, Ліда вышла з кватэры Іннасэс.

А тая плакала нядоўга...

— Фі! Плакаць нельга! — вырашыла яна. — Вочы падпухнуць... І маршчыны пад вачыма з'явяцца. А бабуляй я не хачу быць. — Пакруціўшыся перад люстэркам, прыпудрыла носік. — Бабуляй я і не буду, — у мяне-ж маладосць, грацыя. Тра-ля-ля-ля!..

Узяўшы кошку пальчыкамі за хіб, Іннасэс размахвала ёй, нібы сумачкай, і шпацыравала па пакою на «із'ячных» ножках, вядома, з чорнымі пяткамі.

Ліда, выйшаўшы ад сваёй даўнішняй знаёмай на вуліцу, азірнулася наўкола. Спыніла позірк на чыстым, белым снезе. З'явілася жаданне набраць снегу поўныя прыгаршчы і выцерці ім рукі...



# Быстры Нёман

**Рэкі Беларусі, у тым ліку і Нёман, заўсёды мелі вялікае народнагаспадарчае значэнне. У старажытныя часы ва ўмовах лясной і балоцістай краіны рэкі былі асноўным і амаль адзіным шляхам зносін. Па іх падтрымліваліся сувязі паміж асобнымі родамі і плямёнамі, гарадамі і паселішчамі. Па рэках ішоў гандаль таварамі. Па Дняпру праходзіў калісьці Вялікі водны шлях з поўначы на поўдзень, у Грэцыю. Другі вялікі водны шлях ішоў з усходу на захад па Дзвіне ў Балтыйскае мора. Па Нёману падтрымліваліся гандлёвыя і іншыя сувязі цэнтральнай часткі Беларусі з прыбалтыйскімі краінамі.**

**На працягу многіх стагоддзяў Нёман бачыў падняволъную працу сваіх сыноў у часы феадальнага і капіталістычнага ўціску. Шмат гістарычных падзей адбылося на яго берагах. Старыя хвалі Нёмана былі сведкамі многіх крывавых войн і варожых навал. Былі яны сведкамі і гераічнага змагання народа за волю са сваімі панамі-магнатамі і чужаземнымі захопнікамі.**

**Народ любіць гэтую прыгожую раку, апаэтызаваную песнямі, казкамі, старадаўнімі легендамі і паданнямі. Вобраз «быстрага Нёмана» жыве ў мастацкай творчасці народа. Нямала лірычных і эпічных твораў, літаратурных і фальклорных, прысвечана Нёману. Хто не ведае цудоўных вершаў Якуба Коласа, навеяных вобразам народнага жыцця на берагах гэтай, любімай паэтам ракі?..**

**Якуб Колас нарадзіўся і ўзрос на беразе Нёмана. Тут перадумаў ён нямала дум аб лёсе свайго народа. Тут напісаў ён нямала твораў, на якія натхніла яго родная рака. На беразе Нёмана ў Смольні (так называлася месца, дзе жыла маці паэта, яго браты, сёстры і любімы дзядзька Антось) адбылася летам 1912 года першая сустрэча Якуба Коласа з Янкам Купалам. Тут упершыню пазнаёміліся асабіста абодва вялікія песняры Беларусі.**

**У нашыя дні на вызваленых берагах легендарнай беларускай ракі гучаць вясёлыя песні, квітнее прыгожае, шчаслівае жыццё.**

**Пасля Дняпра і Заходняй Дзвіны Нёман з'яўляецца трэцяй па велічыні воднай артэрыяй Беларусі. Даўжыня Нёмана ад вытокаў да Балтыйскага мора — 961 кілометр. Па тэрыторыі Беларусі Нёман цячэ на працягу 450 кіламетраў.**

**Вытокі Нёмана пачынаюцца ў пяцідзесяці трох кілометрах на паўднёвы захад ад Мінска. Ён выцякае з балота паміж вёскамі Забалоцце і Боркі, у чатырох кілометрах ад раённага цэнтра Узда Мінскай вобласці. Спачатку гэта невялікі ручай, які паступова набіраецца сілы, ператвараючыся непрыкметна ў рэчку.**

**Па ўсяму рэчышчу Нёмана сустракаецца шмат астравоў і меляў. Змяняюцца рознастайныя пейзажы. Чаргуюцца ўзвышшы і раўніны, пушчы, лясы і гаі, сенажаці і балоты. Цёмнай сцяною ўзвышаюцца на берагах Нёмана дрымотныя лясы — сасновыя, яловыя і змешаныя лісцёвыя. У яго чыстых водах адлюстроўваюцца стромкія таполі і прысадзістыя волаты-дубы, высокія і змрочныя, як сівыя вежы старажытных замкаў, яліны, тонкія трапяткія бярозы. Схіляе над ім свае вецце лаза. Падступаюць да берагоў Нёмана вялікія пушчы — Налібоцкая і Гродзенская. Але вось адсунулася сцяна лясоў — і на даляглядзе з'явіліся зноў зялёныя ўзгоркі і ўзвышшы, затканыя рознакаляровым узорам кветак. Шырока рассцілаюцца бязмежныя калгасныя нівы з залацістымі хвалямі жыта, пшаніцы, ячменю.**

**Шмат слаўных гарадоў і паселішчаў знаходзіцца на Нёмане. У межах Беларускай ССР на яго высокіх у гэтым месцы берагах размешчаны такі старадаўні горад, як Гродна, а ў Літве — Каунас і Клайпеда. Нізкія берагі змяняюцца высокімі адхонамі. Рэчышча Нёмана звужаецца, шпаркасць плыні павялічваецца ў тры-чатыры разы. У нізінах Нёман разліваецца вясной на некалькі кілометраў у шырыню. Клімат у даліне Нёмана памяркоўна-цёплы і вільготны, найбольш роўнамерны ў Беларусі.**

**Яшчэ ў пачатку XVII стагоддзя па загаду гетмана Агінскага быў пракладзены Дняпроўска-Нёманскі канал працягам у 60 кілометраў, які злучае раку Шчару, левы прыток Нёмана, праз два возеры — Вульку і Выганаўскае — з ракой Ясельдай, левым прытокам Прыпяці. Да канца XVIII стагоддзя канал бяздзейнічаў. У 1797 годзе яго аднавілі, а з 1804 года па ім пачалі сплаўляць лес, перавозіць збожжа і дровы. Карыстацца гэтым каналам можна было толькі ўвесну, калі ўзнімаўся ўзровень вады. Потым канал, пракладзены з тэхнічнага боку вельмі прымітыўна, паднявольнай працаю прыгонных сялян, абмялеў. Карыстацца ім стала зусім немагчыма, і ён страціў прамысловае значэнне.**

**Цяпер стаіць пытанне аб тым, каб пашырыць і паглыбіць канал, умацаваць яго берагі, аднавіўшы Дняпроўска-Нёманскі водны шлях, які праз Нёман, Прыпяць і Дняпро злучыць Балтыйскае мора з Чорным.**

**Другім, Аўгустоўскім, каналам большая частка якога праходзіць па тэрыторыі Польшчы, Нёман злучаецца праз рэкі Бабёр і Нарэў з басейнам Віслы. У межах Беларускай ССР Аўгустоўскі канал знаходзіцца на працягу 18 кілометраў.**

**У пасляваенныя гады ўзрасло значэнне Нёмана як воднага шляху. У дырэктывах XIX з'езда партыі па пятаму пяцігадоваму плану развіцця СССР на 1951 — 1955 гады прадугледжана палепшыць суднаходства і павялічыць перавозкі пасажыраў і грузаў па рацэ Нёман, пабудаваць мост праз Нёман у Каўнасе, правесці расшырэнне Клайпедскага порта.**

**Беручы свой пачатак у самым сэрцы Беларусі, Нёман з'яўляецца ўвасабленнем традыцыйнай гістарычнай дружбы беларускага народа з суседнім братнім літоўскім народам.**

**В. ВОЛЬСКІ.**



Сплаў лесу ў вярхоўях Нёмана.

П. ГЕРАСІМОВІЧ

# ПЕРШЫЯ ПОСПЕХІ



Летам 1951 года Аляксей Ткачоў паспяхова закончыў курс навучання ў Маскоўскім мастацкім інстытуце імя В. Сурыкава і вярнуўся ў Беларусь, у родную вёску Нізок Уздзенскага раёна. З маленства Аляксей носіць у сэрцы моцныя ўражанні аб паэтычнай прыродзе роднай Беларусі. Усё ў гэтым краі лясоў, шырокіх калгасных ніў, надрэчных лугоў асабліва дорага маладому мастаку. Любоўю да роднай зямлі, да совецкага чалавека прасякнуты першыя работы А. Ткачова. У сваіх творах мастак адлюстроўвае жыццё совецкай моладзі, яе настроі, жаданні.

Варта пагледзець карціну «На канікулы», убачыць сінеючыя далі калгасных палёў, сярод якіх па вузкай палявой дарозе едзе на канікулы суворавец, глянуць на твары яго сяброў-піонераў, каб пераканацца ў тым, што мастак жыве настроямі сваіх герояў, падзяляючы разам з імі іх радасці. Карціна «На канікулы» з'яўляецца дыпломнай працай маладога мастака. Яна прыкметна вылучалася сярод работ дыпламантаў і атрымала пахвалу вядомых мастакоў, выкладчыкаў інстытута.

Адлюстроўваючы жыццё совецкай моладзі, А. Ткачоў быццам узважвае пройдзены шлях сваіх герояў і разам з імі імкнецца да адзінай мэты. Мастак адшуквае тыповыя рысы дзеючых асоб, выяўляючы іх, як носьбітаў усяго лепшага, перадавога. Яго хвалюе вобраз совецкага юнака — свядомага, актыўнага і смелага.

Ставячы такую мэту, А. Ткачоў выбірае сваім героем Паўліка Марозава.

Вясной і летам 1952 года мастак з натхненнем працаваў над новай карцінай. Наведаў радзіму Паўліка Марозава, сабраў неабходны матэрыял, вывучыў умовы, у якіх жыў і загінуў герой-піонер.

Карціна хвалюе; мастак стварыў удалы вобраз Паўліка. Аднак побач з удачамі, у творы ёсць значныя недакладнасці. Зусім лішняй выглядае маці, якая плача, схіліўшыся на плячо Паўліка. Не прыведзена ў дзеянне вялікая група людзей, якія запоўнілі памяшканне сельсовета. Гэта ўскладніла кампазіцыю карціны, знізіла выразнасць і ўздзеянне.

Першыя цяжкасці ў працы над складанай карцінай шмат чаму навучылі мастака. Узрасло жаданне працягваць працу над пошукамі гераічнага вобраза совецкага чалавека, на гэты раз ужо не ў жывапісу, а ў графіцы.

Новыя творчыя планы канчаткова вызначыліся пасля знаёмства з паэмай С. Шчыпачова «Паўлік Марозаў». К гэтаму часу закончыў Маскоўскі мастацкі інстытут імя В. Сурыкава старэйшы брат Аляксея — Сяргей. Над серыяй графічных лістоў, прысвечаных жыццю Паўліка Марозава, браты пачалі працаваць сумесна. Для іх у аднолькавай ступені блізкай і жаданай з'яўляецца тэма аб жыцці моладзі.



Ілюстрацыі С. і А. Ткачовых да паэмы «Паўлік Марозаў» С. Шчыпачова. (Уверсе — «Комуністы»; унізе — «На судзе».)

Дзевяць ілюстрацый, выкананых для паасобных раздзелаў паэмы, атрымаліся ўдалымі. Кожны рысунак выразна адлюстроўвае яркія моманты з жыцця Паўліка Марозава.

Вось ён сядзіць над разгорнутай кнігай. Драўляны не пакрыты стол, пагнутая бляшаная лямпа, бярвенні сцен... Колькі думак на знаёмым і родным твары хлапчука!.. Партрэт Паўліка характэрны. Рысунак удала скампанаваны. У ім адсутнічае ўсё выпадковае. Мастакі кіраваліся сутнасцю і глыбінёю ўнутранага стану героя. Паўлік не па-дзіцячаму ўдумлівы, здольны захапіць сваімі пачуццямі сяброў, здзівіць сваёй адвагай і смеласцю.

У рысунку «Каля кастра» Паўлік выступае як важак. Таварышы аднасяцца да яго з вялікай даверлівасцю.

Графічная манера, якой умела карыстаюцца мастакі, вытрымліваецца ў кожным наступным лісце ў павышаным тэмпе.

Вось Паўлік ідзе ўперадзе хлебнага абоза. На высокім дрэўку палыхае чырвоны сцяг. Піонер ахоплены ўсведамленнем свайго ўдзелу ў вялікай справе.

Паўлік гутарыць з маці. Навокал шырокае, бязлюднае поле. Палоска ўзаранай зямлі і худы конь, — характэрная адзнака старой вёскі. Імкненні свае і свае мары Паўлік выказвае лепшаму другу — маці.

У хаце Марозавых пахмуры, узлаваны бацька сустракае Паўліка. Спалохана глядзіць з цёмнага кута маці... Спакойна і стрымана ўспрыймае Паўлік бацькавы словы. Гэта — удала выбраны драматычны момант.

Захапляе рысунак «Комуністы». Паўлік вырашыў: ён не ўтоіць учынкі кулакоў і ўсё, што ведае, скажа на судзе. Сустрэча піонера з комуністам — адзін з лепшых рысункаў па сваёй вобразнай выразнасці.

І вось Паўлік на судзе. Ён выкрывае кулакоў, выклікаючы іх звярыную нянавісць. У рысунку ўсё дакладна. Удала знойдзены характарыстыкі дзеючых асоб.

Дзевяць рысункаў, уключаючы «Эпілог» — помнік Паўліку Марозаву, ствараюць уяўленне багатай жыццёвай праўды, у значнай ступені дапаўняючай літаратурны тэкст паэмы.

Ілюстрацыі атрымалі адабрэнне журы ў час адбору іх на Усесаюзную выстаўку ў Маскве.

С. Ткачоў «У горад на вучобу».



Тэма маладосці займае галоўнае месца і ў жывапісных кампазіцыях маладых мастакоў. Пасля дыпломнай карціны «За мір», Сяргей Ткачоў напісаў новы твор «У горад на вучобу».

Праўдзівасць і непасрэднасць адлюстравання жыццёвай з'явы ў гэтым творы ставіць карціну ў лік лепшых творчых дасягненняў беларускіх мастакоў у галіне жанравага жывапісу.

Вясну мінулага года Аляксей Ткачоў правёў у роднай вёсцы Нізок. У яе ваколіцах ён напісаў два вялікія веснавыя пейзажы, пад назвай «На радзіме паэта Паўлюка Труса» і «Ворыва цаліны». Выбар веснавых матываў для пейзажаў не выпадковы. Мастак імкнуўся сваё адчуванне новага ў жыцці калгаснай вёскі спалучыць з веснавым прабуджэннем прыроды.

Творчы поспех Сяргея і Аляксея Ткачовых толькі пачынаецца. Творы іх не пазбаўлены рыхласці кампазіцыі, слабасці ў мадэліроўцы формы натуры і некаторых іншых недахопаў. Настойлівыя пошукі маладых мастакоў, іх аптымізм і шчырая любоў да сваёй справы дапамогуць ім у далейшай творчай вучобе.



Група маладых актораў тэатра ўдзельнікаў агляду тэатральнай моладзі рэспублікі, атрымаўшых дыплом і ганаровыя граматы. (Здымак злева.)

Сцэна з пастаноўкі «Брэсцкая крэпасць». У ролях: баец Кукушкін — артыст Б. В. Уксусаў, камісар Калеснікаў — артыст М. П. Абрамаў (Здымак справа).

Фота В. Германа (БЕЛТА)



Я. РАМАНОВІЧ

# ТЭАТР ІМЯ ЛЕНІНСКАГА КОМСАМОЛА БЕЛАРУСІ

Калектыў Дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі, што працуе ў Брэсце, стварыў разам з драматургам К. Губарэвічам патрыятычны спектакль «Брэсцкая крэпасць», у якім паказаны незабыўныя дні слаўтай брэсцкай абароны.

Вось перад намі камісар гарнізона крэпасці Калеснікаў, ролю якога выконвае артыст М. Абрамаў. Калі камісар стаіць на крэпасной сцэне, у сталёвай касцы, у маскіровачным плашчы-накідцы, з аўтаматам у руках і пільна ўглядаецца ў далечыню, то здаецца, што гэта адліты з бронзы манумент савецкага воіна — героя Вялікай Айчыннай вайны. У ім, як у яскравым скульптурным вобразе ўвасоблена сіла і веліч Савецкай Арміі. Разам з тым Калеснікаў — Абрамаў надзвычай просты, душэўны чалавек. З'яўляючыся ўзорам чэснасці, шчырасці, дабраты, камісар выхоўвае ў духу савецкага патрыятызма сваіх баявых сяброў.

Ролю начальніка гарнізона крэпасці палкоўніка Ермашова выконвае артыст П. Маркін. У гэтым суровым з выгляду і нават крыху жорсткім у размовах чалавеку відаць баявы камандзір, чалавек глыбокіх думак, чоткіх і ясных рашэнняў. Ермашоў — савецкі воін у поўным разуменні гэтага слова.

Сярод байцоў гарнізона крэпасці вызначаецца Кукушкін, ролю якога выконвае артыст Б. Уксусаў. У гэтым вобразе раскрываюцца рысы простага савецкага чалавека. У самых незвычайных і цяжкіх умовах Кукушкін не губляе ні ўласцівага яму сакавітага гумару, ні дасціпнай кемлівасці. Жартаўнік у жыцці, які на ўсё глядзіць з вясёлай іскрынкай у вачах, Кукушкін у той-жа час чалавек удумлівы, гарачы патрыёт сваёй Радзімы. Ён гераічна ідзе на смерць, але не выдае ваеннай тайны, не паддаецца на фашысцкую правакацыю, не здраджвае Радзіме. Выконваючы адказнае баявое даручэнне, ён просіць камісара прыняць яго заяву ў партыю. Кукушкіна любяць у гарнізоне. Яго вясёлы жарт, прымаўка, вострае слоўца не толькі падбадзёрваюць байцоў, але і трапна б'юць ворага. Кукушкін — вельмі прывабны вобраз.

Светлае і чыстае каханне лейтэнанта Пінчука (артыст Ю. Уласаў) да ваенурача Зорынай (артыстка С. Іванова) праходзіць праз увесь спектакль. Неўмiручыя словы Горкага з «Дзяўчыны і Смерці», якія вымаўляе Зорына ў час апошняй сустрэчы са сваім каханым, ідуць ад палымянага сэрца. Яны гучаць шчыра і надзвычай моцна выяўляюць сутнасць пачуцця. Натхнёныя вялікай сілай праўды, спакойна і цвёрда ідуць на смерць Пінчук і Зорына разам з рэштай абаронцаў, падрываючы сябе ў апошнім бастыёне.

Спектакль «Брэсцкая крэпасць» асвятляе старонкі гераічнай барацьбы Савецкай Арміі з гітлераўскімі захопнікамі. Ён хвалюе сваёй мастацкай праўдай гледача, асабліва моладзь, выхоўвае яе ў духу савецкага патрыятызма, бязмежнай любві і адданасці сацыялістычнай радзіме і камуністычнай партыі.

Тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі, заснаваны ў 1946 годзе, не гледзячы на сваю маладосць, паспяховай працай даказаў, што ён здольны вырашаць складаныя творчыя задачы. У яго рэпертуары такія буйныя класічныя творы, як «Мяшчане» М. Горкага, «Анна Карэніна» і «Жывы труп» Л. Талстога, «Дваранскае гняздо» І. Тургенева, «Навальніца» А. Астроўскага і інш. Аднак галоўная ўвага тэатра звернута на стварэнне спектакляў, якія адлюстроўваюць савецкую сучаснасць. Пастанова Цэнтральнага Камітэта партыі «Аб рэпертуары драматычных тэатраў і мерах па яго палепшанню» з'явілася баявой праграмай дзейнасці тэатра.

Найбольш ярка і змястоўна раскрыта тэма рэвалюцыйнай барацьбы ў пастаноўцы п'есы «Сям'я» І. Папова, якая прысвечана юнацкім гадам жыцця Уладзіміра Ільіча Леніна. У спектаклі «Сям'я» па-мастацку выразна паказана, як пад уплывам жыцця і класавай барацьбы ва ўмовах жорсткага царскага рэжыму, узрастала свядомасць генія пралетарскай рэвалюцыі.

У ролі Уладзіміра Ульянава артыст І. Панаеў раскрывае дапытлівы розум, гарачае сэрца, чулы і ўважлівы падыход да простых людзей, нянавісць да эксплуататараў, двурушных і хціўых царскіх чыноўнікаў і жандараў.

У ролі маці Уладзіміра Ільіча — Марыі Аляксандраўны хвалюе гледача моцным драматызмам артыстка А. Качаткова.

Са спектакляў аб маладым чалавеку нашага часу глядач надоўга запамінае «Юнацтва бацькоў» у пастаноўцы маладога рэжысёра Г. Волкава. Спектакль паказвае, як гартаваўся ленінскі камсамол, як у дружным калектыве выхоўваліся савецкія юнакі і дзяўчаты, як, не шкадуючы свайго маладога жыцця, змагаліся яны за свабоду і шчаслівую, светлую будучыню Радзімы.

У спектаклі апавядаецца аб сустрэчы простага рабочага хлопца камсамольца Антона з дзяўчынай з сям'і гарадскога ўрача Логінава — Наташай, аб іх каханні, аб жыцці і баявых справах камсамольцаў. Артысты Б. Канцадалаў і Т. Канавалава стварылі вобразы савецкай моладзі, якія хвалююць сваёй шчырасцю.

Услед за спектаклем аб маладых байцах рэвалюцыі тэатр паставіў п'есу К. Трэнёва «Любоў Яравая», у якой раскрываюцца характары людзей старэйшага пакалення.

З кожным новым спектаклем тэатр набывае ўсё больш шырокую папулярнасць і любоў у гледачоў. У час гастроляў па рэспубліцы і за яе межамі — на Украіне — тэатр умацоўвае сяброўскія сувязі са сваім маладым гледачом.

Зараз тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі знаёміць сваіх гледачоў не толькі з творамі рускай і замежнай класікі, з лепшымі творамі савецкай драматургіі, але і ў цесным супрацоўніцтве з пісьменнікамі стварае новыя творы, у якіх знаходзіць сваё мастацкае адлюстраванне шчаслівае жыццё і праца беларускага народа на вызваленай зямлі.

Такім спектаклем, што яскрава паказвае, як працоўнае сялянства заходніх абласцей рэспублікі ўпэўнена ідзе ў новае, калгаснае жыццё, з'яўляецца спектакль па п'есе В. Палескага «Калі зацвітаюць сады».

Гледачы любяць тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі за тое, што ён востра адчувае сучаснасць і жыва адгукаецца на яе запатрабаванні. З хваляваннем сустракаецца кожная яго новая пастаноўка. З поспехам прайшлі спектаклі «Трыццаць срэбранікаў» па п'есе прагрэсіўнага амерыканскага пісьменніка Говарда Фаста і «Інакш жыць нельга» па п'есе А. Сафронава, «Два лагеры» па п'есе А. Якабсона, «Сям'я Алана» па п'есе А. Кахара. Тэатр паставіў паэтычны спектакль па п'есе класіка латышскай літаратуры Яна Райніса «Вей, вецярок!». У гэтай драматычнай паэме аб горкім лёсе маладой латышскай дзяўчыны Барбы і закаханага ў яе адважнага юнака Улдыса глыбока раскрываецца жыццё і барацьба латышскага народа ў дарэвалюцыйнай Латвіі. Поспеху спектакля спрыяе натхнёнае выкананне асноўных роляў — Барбы і Улдыса акторамі Т. Канавалавай і Б. Канцадалавым. Яны добра даносяць да гледача сацыяльную і лірычную тэму вобразаў.

Аб тэатры імя Ленінскага камсамола Беларусі можна сказаць, што ён хутка і паспяхова расце і развіваецца. Аб'яднаўшы таленавітых маладых актораў, тэатр смела ідзе наперад па шляху стварэння спектакляў высокага ідэйнага і мастацкага гучання.

Сцэна з пастаноўкі «Вей, вецярок!» У ролях: Барба — артыстка Т. Ф. Канавалава, Улдыс — артыст Б. Н. Канцадалаў.



Піліп ПЕСТРАК

# ПАПСТВА—ВОРАГ МІРУ І ДЭМАКРАТЫІ

Ватыкан — сядзіба рымскага папы — з'яўляецца гняздом самай чорнай рэакцыі. Адтуль працягваюцца атрутныя шчупальцы амаль ва ўсе краіны свету, каб хлуснёй, ашуканствам, подкупам, «страхам божым» трымаць у цемры і няволі працоўныя масы.

На працягу ўсёй сваёй гісторыі папства было верным слугой эксплуататарскіх класаў. Настойліва здабываючы сабе матэрыяльныя багацці і палітычны ўплыў, папства паступова вырасла ў пачварны сімвал усяго антычалавечага, варожага ўсяму светламу, прагрэсіўнаму.

У сярэднія вякі рымскі папа — гэта адзін з найбуйнейшых феадалаў, які акружаў боскім арэолам феадальны лад, як вечны і нязменны. У час капіталізма папа, уся вышэйшая духоўная іерархія каталіцкай царквы — гэта купцы, прамыслоўцы, а потым — буйныя банкіры, якія таксама ўхвалялі капіталістычны лад, як вечны і нязменны.

Каталіцызм — гэта найбольш заядлы вораг чалавека, вораг прагрэсу, вораг, які стагоддзямі выпрацоўваў самыя тонкія спосабы духоўнага заняволення людзей, заўсёды быў апорай рэакцыі і цемрашальства. Невыпадкова лепшыя розумы чалавецтва змагаюцца супраць заправіл каталіцызма, выкрываюць іх агідную сутнасць і варожую дзейнасць.

Рускія рэвалюцыйныя дэмакраты — Чэрнышэўскі, Дабралюбаў, Герцэн — бязлітасна выкрывалі ролю папства, як душыцеля свабоды і заклятага ворага навукі. Яны сцвярджалі, што ўся гісторыя каталіцкай царквы напісана крывёю, адзначана горамі трупаў і морам слёз. Палітычныя інтрыгі, ашуканствы, забойствы, уладалюбства, зайздрасць, разбэшчанасць, ханжаства і крывавыя войны — непазбежныя спадарожнікі Ватыкана.

Папства не раз выклікала справядлівы гнеў народаў. І толькі прыгнечанае становішча мас, іх цемра, іх нядоля былі тым грунтам, на якім папства ўтрымлівала свой аўтарытэт, палохаючы ўсіх і ўсё вечнымі пакутамі пекла і суцяшаючы вечным жыццём у раі. Гэтыя ілюзіі заўсёды былі зброяй каталіцызма, тым опіумам рэлігіі, якім яны адурманьвалі прыгнечаныя працоўныя масы.

Карыстаючыся цемрай і бяздоллем працоўных, папства ўзбройвалася манашаскімі фанатычна-ваяўнічымі арганізацыямі — ордэнамі, з якіх вылучаюцца па сваёй драпежнасці і гнюткасці — ордэн дамініканаў і ордэн езуітаў.

Першыя — дамініканцы — гэта шпікі Ватыкана, «вездесущее око» ў барацьбе з «ерасямі», гэта гестапа рымскага папы, крывавыя майстры сярэдневяковай інквізіцыі. Другія — езуіты — гэта выпрабаваныя палітычныя бандыты. Іх знешняя крывадушная набожнасць пераплятаецца са здрадай, хітрасцю, вераломствам, подласцю і непераборлівасцю ў сродках. Таварыш Сталін гаварыў аб езуітах: «...асноўны іх метад — гэта слежка, шпіянаж, залязанне ў душу, здзек...»

Такой зброяй у палітычнай барацьбе рымскі папа карыстаецца і цяпер.

Трэба сказаць, што пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ўплыў папства на працоўныя масы значна паменшыўся. Кастрычніцкая рэвалюцыя ўскалыхнула народы ўсёй Еўропы, абудзіла народы Азіі, узняла сцяг барацьбы каланіяльных народаў за сваё вызваленне ад ярма імперыялізма. Падрываючы асновы панавання буржуазіі, Кастрычніцкая рэвалюцыя тым самым падарвала і асновы Ватыкана — вернага слугі імперыялізма. Асабліва гэта стала відавочным пасля другой сусветнай вайны. Разам з гэтым становіцца ўсё больш цясенйшым саюз імперыялістычнай буржуазіі з Ватыканам. І гэта зразумела. Буржуазія стала наскрозь рэакцыйнай, яна ўжо нічога не можа даць чалавецтву. Устанаўліваючы фашысцкую дыктатуру, буржуазія сцвярджае сваё ідэалагічнае ўбоства, звяртаецца па дапамогу да Ватыкана, як самай надзейнай апоры рэакцыі.

Фашызм, як гаварыў М. І. Калінін, знамянуе сабой велізарны рух буржуазнага грамадства назад.

У наш час заходнееўрапейская буржуазія цалкам адмовілася ад прынцыпу нацыянальнай незалежнасці, прадала яе Уол-стрыту за долары. Інакш кажучы, буржуазія стала на шлях касмапалітызма. Гэта якраз патрэбна Ватыкану. Папства па сваёй прыродзе заўсёды было касмапалітычным. Інтарэсы каталіцкай царквы яно ставіла вышэй усякіх нацыянальных ідэалаў. Яно было слугой і ахоўнікам інтарэсаў касмапалітычнай арыстакратыі ў сярэднія вякі, а цяпер з'яўляецца слугой і ахоўнікам інтарэсаў імперыялістычнай буржуазіі— таксама касмапалітычнай.

Ватыкан стаў царкоўным філіялам амерыканскага імперыялізма.

Дэкрэт цяперашняга рымскага папы Пія XII аб адлучэнні ад царквы ўсіх, хто разам з камуністамі змагаецца за мір, за істотныя інтарэсы працоўных, з'яўляецца сярэдневяковым сродкам барацьбы. Такі сродак быў дзейсным тады, калі шырокія прыгнечаныя масы былі цёмнымі і запалоханымі. Цяпер — не тое! Цяпер ёсць камуністычныя партыі, якія выкрываюць усю хлусню «слугаў боскіх», усе ашуканствы імперыялістаў, ёсць апора і радасць усіх працоўных — Савецкі Саюз, авангард і сцяганосец міру.

Які «поспех» мае дэкрэт папы Пія XII, відаць хоць-бы з такога выпадку. У дні адзначэння шасцідзесяцігоддзя правадыра італьянскага народа Пальміра Тальяці паліцыя разганяла мітынгі, арыштоўвала працоўных. У знак пратэсту многія члены хрысціянска-дэмакратычнай партыі публічна парвалі свае партыйныя білеты. Няма ўжо веры хлуслівай сцвярджанню папы, што імкненне народаў да міру, рух прыхільнікаў міру з'яўляецца «ерассю», значыць, падлягае інквізіцыі. Затое Паўночнаатлантычны пакт, гэтую змову імперыялістаў супраць Савецкага Саюза і краін народнай дэмакратыі, той самы папа называе «цесным саюзам народаў».

Папа б'е ў набат, кліча да крыжовага паходу супраць камунізма, супраць краіны Саветаў. Папа не можа спаць спакойна. Каталіцкая іерархія, а за ёю спіною імперыялістычныя драпежнікі напалоханы ростам сіл сусветнага лагера дэмакратыі і няспынным пашырэннем ідэй марксізма-ленінізма.

«Humani generis» — энцыкліка, пасланне папы Пія XII, выдадзенае восенню 1950 года, накіравана супраць перадавой навукі. Папа скардзіцца на эвалюцыйнае вучэнне, што вось, моў, усё развіваецца, усё змяняецца, і гэта дапамагае камуністам больш эфектыўна прапагандаваць дыялектычны матэрыялізм. Папа, такім чынам, хоча, каб не было ніякага развіцця, ніякага руху, каб усё залежала ад яго волі як у прыродзе, так і ў грамадстве. Цемрашальская злосць папы Пія XII выліваецца ў гэтай энцыкліцы таксама і на гістарызм. Самы галоўны «грэх» гістарызма, па думцы папы, у тым, што гісторыя грамадства тлумачыцца законам развіцця самога грамадства, што пры гэтым адкідаюцца казкі аб умяшанні надпрыродных сіл, г. зн. «абсалютных», ці інакш — «боскіх законаў». Пій XII моцна ўстрывожаны тым, што людзі хочуць «вельмі многа ведаць». Папа піша: «Людзі, якія хочуць многа ведаць, упадаюць у небяспеку адыйсці ад догматаў, якія прапаведуе касцёл»(!). Развіццё навукі палохае папу.

У сваёй нянавісці да прыхільнікаў міру, да дэмакратыі і соцыялізма папства вядучую ролю ў барацьбе супраць усіх прагрэсіўных сіл адводзіць езуітам. Гэта і зразумела. «Сапраўдных кіраўнікоў палітыкі Ватыкана ў славянскіх краінах трэба шукаць у рэзідэнцыі генерала ордэна езуітаў у Рыме...» — піша адзін з французскіх камуністаў. Тут нараджаюцца інтрыгі супраць народных дэмакратый, савецкага ладу, марксісцкай думкі і камуністычных партый свету. Тут езуіты займаюць кіруючыя пасады пры папскім прастоле (у «Рускай калегіі», ва «Усходнім інстытуце»). Абедзве гэтыя ўстановы займаюцца падрыхтоўкай кваліфікаваных кадраў дыверсантаў, шпіёнаў, правакатараў, якіх сістэматычна і засылаюць у краіны народнай дэмакратыі.

Аблуднасць каталіцызма з'яўляецца тым больш пачварнай, што Ватыкан — самае рэакцыйнае гняздо цемрашалаў, — кантралюе ўсе фінансы Італіі. Гэта значыць, што Ватыкан ёсць найбагацейшы ў гэтай краіне банкір. Пры дапамозе сваіх 40 цэнтральных і сотні меншых банкаў Ватыкан трымае ў руках 400 з 600 мільярдаў лір усёй сумы італьянскага крэдыту. У банках другіх капіталістычных краін Ватыкан валодае акцыямі на суму 95 мільярдаў франкаў. Апрача гэтага, Ватыкану належыць велізарная нерухомая маёмасць: землі, фабрыкі, заводы, нафтавыя промыслы і г. д. Не брыдзіцца Ватыкан і даходамі ад такіх «богаўгодных» устаноў, як ігорныя дамы.

Адным словам, «боскія слугі» — гэта капіталісты ў сутанах. Самі дбаюць як мага аб зямных багаццях, а няшчасным веруючым кажуць жыць без хлеба, абяцаючы ім багацці ў небе. Нічога дзіўнага, што нават самі кардыналы прыязджаюць на месцы забастовак рабочых, каб сарваць іх рознымі ашуканствамі, як гэта было на адной з шахт у Італіі (Арагон-Кальдар), куды прыязджаў кардынал Руффіні. Але гарнякі адкінулі прэч прапановы ўслужлівага капіталістам кардынала і акупіравалі шахту.

Пратэст працоўных супраць палітыкі голаду, вайны, супраць увядзення фашызма знаходзіць водгук не толькі ў шырокіх масах католікаў, але і сярод некаторай часткі каталіцкіх дзеячоў, тых, якія не аслеплены нянавісцю да народа і дэмакратыі. Так у 1952 годзе ў дэмакратычным італьянскім друку была апублікавана звестка аб выхадзе з езуіцкага ордэна патэра Тондзі — аднаго з відных яго членаў, прафесара Ватыканскага грэгар'янскага універсітэта. Тондзі заявіў, што ён пераканаўся ў антынавуковасці таго, чаму вучыць каталіцкая царква, і ў праўдзівасці камунізма. Па заяве Тондзі клерыкальная партыя Італіі за пахлёбку прадала Італію амерыканскім імперыялістам. Тондзі заявіў, што соцыяльныя рэформы толькі абяцаюцца, але не праводзяцца, краінай кіруюць няздольныя людзі, і кліка зладзеяў адчувае сябе выдатна ў такіх абставінах. Камуністы-ж, сапраўдныя абаронцы бедных, праследуюцца. Вышэйшая іерархія каталіцкай царквы, як заявіў Тондзі, ускладае вялікія надзеі на вайну, атамную зброю і амерыканскія арміі.

Гэты прафесар, парваўшы з Ватыканам, безумоўна, гаворыць праўду. Пасланнік папы ў Амерыцы кардынал Спелман у адным са сваіх артыкулаў яшчэ ў 1946 годзе з адкрытым цынізмам заклікаў: «Верце ў Амерыку і ў бога».

Разбойнікі ў сутанах — вышэйшая каталіцкая іерархія — ідуць крок у крок разам з падпальшчыкамі вайны, заключыўшы саюз з амерыканскім доларам. Гэта — ворагі чалавецтва, ворагі ўсяго жывога, растучага, забойцы найлепшых імкненняў працоўнага чалавека. Яны па традыцыях векавой практыкі папства ў заняволенні мас усё яшчэ дзейнічаюць атрутным ядам рэлігіі для распальвання вайны і выратавання капіталізма, імкнучыся паралізаваць энергію працоўных, іх імкненне да вызвалення ад голаду, бяспраўя і цемры.

Але час працуе супраць папства. Палітычная актыўнасць народных мас пад кіраўніцтвам камуністычных партый узрастае з кожным днём, падмываючы ватыканскія берагі, набліжаючы той час, калі папства — гэты апухлы ад нажывы, подласцяў і разбэшчання нарост на целе грамадства будзе знішчаны ўшчэнт і назаўсёды.

# Кніжная паліца

## ВЕЛІЧНЫ ПОМНІК РУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

У 1795 годзе знаўца рускай старыны А. І. Мусін-Пушкін знайшоў у архіве Спаса-Яраслаўскага манастыра невядомы раней твор «Слова аб палку Ігаравым», які быў апублікаваны ўпершыню ў 1800 годзе.

У «Слове аб палку Ігаравым» з вялікай мастацкай сілай адлюстраваны характэрныя рысы рускага народа, яго мужнасць і гераізм у барацьбе за свабоду і незалежнасць Радзімы. Твор гэты нанёс моцны ўдар па спробах розных рэакцыянераў даказаць, што рускі народ нібыта не меў у мінулым сваёй культуры, а пераймаў яе ў іншых народаў. Перадавых людзей Расіі, для якіх ненавісны былі шкодныя касмапалітычныя тэорыі, выдатны твор невядомага аўтара XII стагоддзя захапляў, як найвялікшы літаратурны помнік, і яшчэ больш пераконваў у тым, якой самастойнай і самабытнай была культура рускага народа. У адрозненне ад твораў заходнееўрапейскага эпаса — «Песня аб Раландзе» і «Песня аб Нібелунгах», дзе ўслаўляюцца крывавыя бясчынствы рыцараў і баронаў, «Слова аб палку Ігаравым» прысвечана свяшчэннай барацьбе народа за сваю незалежнасць.




Карыстаючыся тым, што арыгінал «Слова аб палку Ігаравым» згарэў у час пажару ў Маскве ў 1812 годзе, рэакцыянеры пусцілі ў ход паклёпніцкую выдумку, быццам твор з'яўляецца падробленым, а не сапраўдным. Супраць гэтага рашуча выступіў А. С. Пушкін, які неаднаразова выказваў сваё глыбокае захапленне «Словам», ацаніўшы яго як нацыянальны помнік рускага народа. Рашуча асудзіў спробу прынізіць значэнне гэтага твора і палымяны рэвалюцыйны дэмакрат В. Г. Белінскі.

Сапраўдную папулярнасць і ўсенароднае прызнанне «Слова аб палку Ігаравым» атрымала толькі пасля перамогі Кастрычніка. Савецкія вучоныя-літаратуразнаўцы ўшчэнт разбілі выдумкі фальсіфікатараў і глыбока раскрылі гістарычнае значэнне гэтага твора. Яны паказалі, што «Слова аб палку Ігаравым» з'яўляецца агульным помнікам трох славянскіх народаў — рускага, украінскага і беларускага, якія да распаду Кіеўскай Русі складалі адзін народ.

«Слова аб палку Ігаравым» напісана ў 1187 годзе па гарачых слядах гістарычных падзей і ставіць у цэнтр увагі ідэю аб'еднання рускіх зямель. Гэтае пытанне было карэнным, надзённым пытаннем нацыянальнага развіцця рускага народа, таму што, пасля распаду Кіеўскай Русі на асобныя княствы, рускія землі сталі падзяргацца бясконцым набегам і разграбленням з боку вандроўных стэпавых плямёнаў — полаўцаў.

Для нас, савецкіх людзей, гэты твор блізкі і дарагі таму, што ў ім з глыбокай пераканальнасцю і праўдзівасцю адлюстравана палымяная любоў нашых продкаў да сваёй бацькаўшчыны.

Аўтар «Слова» невядомы, але адно несумненна, што гэта быў перадавы чалавек сваёй эпохі, гарачы патрыёт Радзімы, які глыбока разумеў, што сіла і магутнасць яе — у адзінстве. Вялікая сіла уздзеяння гэтага твора ў тым, што высокародная ідэя абароны рускім народам сваёй зямлі ад агрэсараў-полаўцаў раскрываецца праз глыбокамастацкія вобразы і эпізоды.

Адначасова з грабежніцкімі набегамі полаўцаў рускую зямлю аслабляла і спусташала і барацьба паасобных князёў. Са «Слова» відаць, што жорсткія баі адбываліся ў многіх месцах Беларусі, ад берагоў Дзвіны да Нёмана. Пра адзін з такіх баёў у творы гаворыцца: «На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць цапамі сталёвымі, жыццё кладуць на таку, душу веюць ад цела. Нямігі крывавыя берагі не дабром былі засеяны, засеяны былі касцямі сыноў рускіх». Тут маецца на ўвазе сапраўды гістарычны факт разгрому на Нямізе ў красавіку 1067 года войск князя полацкага.

«Слова аб палку Ігаравым» заўсёды захапляла лепшыя розумы чалавецтва. Высокую ацэнку гэтаму твору даў К. Маркс, які глыбока раскрыў ідэйнае значэнне вялікага помніка рускай культуры. «Сэнс паэмы,—гаварыў К. Маркс,— заклік рускіх князёў да еднання якраз перад нашэсцем манголаў».

«Слова аб палку Ігаравым» выдадзена амаль на ўсіх мовах народаў нашай краіны, на ўсіх славянскіх мовах і многіх іншых мовах свету.

На беларускую мову твор перакладзены народным паэтам БССР Янкам Купалам.

**В. БУРНОСАЎ.**

---

**«Слова аб палку Ігаравым»**, Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1952.

## ЗА ВЫСОКІ ЎРАДЖАЙ!

У брашуры Н. Стоцкага «Як калгас «Сталінскі шлях» атрымлівае высокія ўраджаі збожжавых культур», якая нядаўна выйшла ў свет, паказаны вопыт работы калгаснікаў аднаго з перадавых калгасаў Мінскага раёна па атрыманню высокіх ураджаяў. Узятыя сацыялістычныя абавязацельствы тут не толькі выкананы, але і значна перавыкананы: азімай пшаніцы атрымана па 20 цэнтнераў з кожнага гектара на плошчы 42 гектары, яравой пшаніцы — па 16 цэнтнераў на плошчы 72 гектары, жыта — па 19 цэнтнераў на плошчы 248 гектараў, аўса — па 17 цэнтнераў на плошчы 60 гектараў, ячменю — па 25 цэнтнераў на плошчы 82 гектары.

Такі ўраджай атрыманы дзякуючы таму, што калгаснікі настойліва змагаліся за павышэнне культуры земляробства, старанна прымянялі перадавую агратэхніку.

У калгасе поўнасцю асвоены травапольныя севазвароты. Асаблівае значэнне надаецца травасеянню. У 1952 годзе ўборачная плошча канюшыны ў сумесі з цімафееўкай склала 400 гектараў. Шматгадовымі травамі штогод засяваецца два палі севазвароту. У выніку дакладнага прымянення агратэхнічных правіл калгас атрымлівае па 40 цэнтнераў канюшыннага сена з гектара на вялікіх плошчах.

У брашуры значнае месца адводзіцца пытанням механізацыі ўсіх асноўных работ у калгасах, правільнай установцы нормы высеву і прымяненню ўгнаенняў, што з'яўляецца важнай умовай уздыму ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур.

Вывучыўшы гістарычныя рашэнні XIX з'езда КПСС і дырэктывы па пятаму пяцігадоваму плану ў галіне сельскай гаспадаркі, калгаснікі сельгасарцелі «Сталінскі шлях» пераканаліся ў тым, што магчымасці калгаса па далейшаму ўздыму ўраджайнасці і павелічэнню пагалоўя жывёлы яшчэ далёка не выкарыстаны. У 1953 годзе яны рашылі дамагчыся новых, лепшых поспехаў, змагацца за далейшае павышэнне культуры земляробства, дасягнуць ураджаю збожжавых па 20 цэнтнераў з кожнага гектара.

Вопыт работы калгаса «Сталінскі шлях» па атрыманню высокіх ураджаяў з вялікай карысцю можа быць прыменены ва ўсіх калгасах рэспублікі.

**В. ІВАНОЎ.**

## ЛЮБІМАЯ ІГРА

Той, хто некалькі разоў паспрабуе перакінуць цэлулоідны мяч цераз сетку, лёгка пераканаецца, што цікавасць да гэтай ігры ўзрастае з кожным ударам. Рэдка ў якой ігры так хутка з'яўляецца спартыўны азарт, як у настольным тэнісе.

Навічок іграе, стоячы каля стала. Добра натрэніраваны ігрок ужо не можа заставацца спакойным. Моцныя ўдары ў яго чаргуюцца са слабымі, абманнымі. Ігру даводзіцца весці то каля самага краю стала, то імгненна адскокваючы на значную адлегласць. Рухомасць, дакладнасць, вынаходлівасць — вось што дае ігра ў настольны тэніс.

Настольны тэніс — адзін з лепшых відаў трэніроўкі перад спаборніцтвамі ў валейбол, баскетбол, перад сустрэчамі лёгкаатлетаў. Як студэнт, магу сказаць, што няма лепшага спосабу правесці перапынак паміж лекцыямі, чым чатырох-пяціхвілінны паядынак двух «праціўнікаў», якія свабодна валодаюць мініяцюрнымі фанернымі ракеткамі.

Стол для гэтай ігры павінен мець памеры 2,74×1,52 м, пры вышыні 0,76 м і таўшчыні верхняй дошкі 25 — 30 см, але, у крайнім выпадку, гуляць можна і на сталах меншых памераў. У школах, інстытутах, дамах адпачынку, інтэрнатах і, нарэшце, проста ў прыватных кватэрах (а летам, вядома, на вуліцы) лёгка знайсці месца для ігры ў настольны тэніс. Інвентар — нескладаны. Карысць ад гульні — вельмі вялікая.

Гуляйце ў настольны тэніс!

**А. ГАРНАК,
студэнт БДУ.**

... Няма лепшага спосабу правесці перапынак паміж лекцыямі!





## Традыцыйная сустрэча лёгкаатлетаў рэспублікі

Летні спартыўны сезон лёгкаатлеты рэспублікі адкрылі спаборніцтвам на Брэсцкім стадыёне «Спартак». Пасланцы Мінска, Гомеля, Віцебска, Бабруйска і Брэста сустрэліся на бегавой дарожцы, каб памерацца сіламі, заваяваць перамогу ў традыцыйных спаборніцтвах.

Ганаровае права падняць сцяг спаборніцтваў было прадастаўлена чэмпіёну і рэкардсмену СССР Міхаілу Крываносаву і рэкардсменцы рэспублікі Ларысе Галяцінай. Пад урачыстыя гукі Гімна Савецкага Саюза чырвонае палотнішча ўзвілося на флагштоку.

Спаборніцтвы пачаліся.

Шматлікія гледачы, якія запоўнілі трыбуны, з цікавасцю сачылі, як змагаліся за дзесятыя долі секунды бегуны, як адваёўвалі сантыметры скакуны і інш.

Першынства па бегу на 110 метраў з бар'ерамі аспрэчвалі мацнейшыя бар'ерысты краіны Анатоль Юлін і Цімафей Лунёў. Юлін і Лунёў амаль адначасова дасягнулі фінішнай паласы, але Лунёву ўдалося на нейкае імгненне раней дакрануцца істужкі. І перамога засталася за ім. Па бар'ерным бегу на 400 метраў Юлін узяў рэванш.

Бег на 100 метраў прынёс перамогу студэнту Беларускага дзяржаўнага інстытута фізічнай культуры Васілю Мацясу. 400-метровую дыстанцыю лепш за ўсіх прабег Лунёў.

З цікавасцю сачылі брэстаўчане за выступленнем мятацеляў молата. Пераможцам у гэтым відзе спорту выйшаў майстар спорту Міхаіл Крываносаў. Ён кінуў снарад на 54 метры 82 сантыметры.

У спаборніцтвах прымалі ўдзел і юныя спартсмены. Паспяхова выступалі вучань 9-й Брэсцкай школы Тадэуш Кулікоўскі і юны брэстаўчанін Анатоль Кокаў.

Ва ўпартай барацьбе прайшла эстафета для дзяўчат.

У выніку першае месца ў спаборніцтвах заняў першы калектыў сталіцы, другое — спартсмены Брэста.

На здымку: Старт Анатоля Юліна на дыстанцыю 400 метраў з бар'ерамі.

Фота В. ГУНДОРЫНА.

# Тэхніка пятай пяцігодкі

### ТРАКТАР «БЕЛАРУСЬ»

Група канструктараў Мінскага трактарнага завода ў складзе тт. Альгіна, Байкова, Дзікалава пад кіраўніцтвам галоўнага канструктара завода лаўрэата Сталінскай прэміі тав. Дронга стварыла новы калёсны дызельны трактар «Беларусь». Зараз у цэхах прадпрыемства вядзецца падрыхтоўка да серыйнай вытворчасці новага трактара. Хлебаробы Беларусі, Украіны і іншых рэспублік атрымаюць сёлета тысячы машын новай маркі.

Выпрабаванні паказалі, што трактар «Беларусь» з'яўляецца вельмі зручнай і патрэбнай для сельскай гаспадаркі машынай. Трактар можна выкарыстаць для апрацоўкі пасеваў сланечніку, кукурузы, цукровых буракоў, бульбы, для правядзення ворыва і баранавання палёў, малацьбы, прыгатавання кармоў на жывёлагадоўчых фермах.

Новы трактар вельмі эканомны. Ён будзе працаваць на танным дызельным паліве і можа развіваць хуткасць ад 4,6 да 13 кілометраў у гадзіну. Машыну можна выкарыстоўваць у якасці цягача, рухавіка для малатарні і г. д. Магутнасць рухавіка — 37 конскіх сіл.

У гэтым годзе Мінскі трактарны завод будзе выпускаць трактары «Беларусь» двух мадэляў — «МТЗ-1» і «МТЗ-2». Розніца паміж імі — у канструкцыі пярэдніх колаў. У першай мадэлі пярэднія колы здвоены, што робіць трактар больш манеўраным. Высока размешчаная задняя вось дазваляе без цяжкасцей выкарыстоўваць машыну для міжрадковай апрацоўкі. Для зручнасці эксплуатацыі прыменена спецыяльная гідраўлічная сістэма для падняцця і апускання навесных прылад. Таму адпадае неабходнасць у прычэпшчыку.



### НОВЫ КУСТАРЭЗ

Магутны трактар «С-80» рухае перад сабою машыну, якая нагадвае дзве змацаваныя паміж сабой велізарныя лыжы. Перад гэтым прыстасаваннем не можа ўстаяць ні адзін куст. Нават дрэвы таўшчынёй у 10—15 сантыметраў падаюць, як скошаная трава.

Гэта працуе кустарэз «К-3,2», сканструяваны групай работнікаў Міністэрства мясцовай прамысловасці БССР і зроблены на Лідскім машынабудаўнічым заводзе.

Новы кустарэз мае шмат пераваг перад іншымі кустарэзамі. Ён больш трывалы, лягчэйшы, шырыня захопу дасягае 3,2 метра. За гадзіну машына ачышчае 0,97 гектара хмызнякоў.

Для выкарыстання кустарэза «К-3,2» адкрываюцца велізарныя магчымасці. XX з'езд кампартыі Беларусі паставіў задачу — на працягу двух-трох год ачысціць грамадскія землі ад хмызнякоў. Гэтую задачу можна будзе паспяхова ажыццявіць, выкарыстоўваючы магутную тэхніку.



### ПЕРАСОЎНАЯ ДАІЛЬНАЯ МАШЫНА

Завод «Гомсельмаш» асвойвае выпуск новай складанай перасоўнай даільнай машыны «ДУП-10». Гэтая ўстаноўка можа абслужыць 100—150 кароў. Асаблівасць яе заключаецца ў тым, што машыну можна выкарыстоўваць на фермах, дзе адсутнічае электрычнасць.

Устаноўка напамінае крыты фургон на гумавых колах. Ён перавозіцца на прычэпе аўтамашыны або коньмі. У фургоне змантыравана ўсё неабходнае абсталяванне. Устаноўка прыводзіцца ў дзеянне рухавіком унутранага згарання, які патрабуе каля аднаго кілограма гаручага ў гадзіну.

Новая машына дазволіць механізаваць адну з самых працаёмкіх работ у жывёлагадоўлі — даенне кароў на пашы.

### АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, змешчаны ў № 1.

**Па гарызанталі:** 1. Аўтапартрэт. 3. Сезон. 4. Этыка. 6. Аграном. 10. Днепр. 11. Іртыш. 13. Калач. 14. Мара. 15. Агат. 16. Эліта. 20. Парк. 21. Рэклама. 23. Карп. 25. Арктыка. 26. Скарына. 27. Турнепс. 29. Аскафен. 33. Краб. 35. Санітар. 36. Указ. 38. Рампа. 40. Драп. 42. Нага. 44. Паэма. 48. Раман. 49. Рыфма. 50. Антракт. 51. Ротар. 52. Шэўёт. 53. Агратэхніка.

**Па вертыкалі:** 1. Анкер. 2. Тэатр. 3. Сюіта. 5. Апорт. 6. Арка. 7. Рэмарка. 8. Наватар. 9. Міна. 10. Драма. 12. Шкляр. 13. Кандэнсатар. 17. Антысептыка. 18. Скат. 19. Якар. 20. Практык. 21. Рукапіс. 22. Аркестр. 24. Прагноз. 28. Неба. 30. Ажур. 31. Анапест. 32. Станіца. 34. Рупар. 37. Анапа. 39. Аўтар. 41. Рана. 43. Гарт. 45. Макет. 46. Хмара. 47. Афіша.






На першай старонцы вокладкі — Малюнак А. Волкава.

На чацвертай старонцы вокладкі — Фота А. Дзітлава.


Адказны рэдактар — Аляксей КУЛАКОЎСКІ.

Рэдакцыйная калегія:
Янка БРЫЛЬ (нам. адказн. рэдактара), Юрый ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Вадзім ПОЗНЯК, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК.

«Молодость».
На белорусском языке.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Газетна-журнальнае выдавецтва Белпаліграфвыдавецтва, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Адрас рэдакцыі: Падгорны зав., 2. Тэлефоны: адказнага рэдактара — 93-634, аддзела ілюстрацый—93-985.

АТ 03953. Здадзена ў набор 11. IV. 53 г. Падпісана да друку 1.V.1953. Фармат паперы 70×108¹/₁₆. Друк. арк. 4. (У др. арк. 65.000 зн.). Вуч.-выд. арк. 7. Тыраж 20.000 экз. Заказ 249.

Цана 2 руб.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.




**Кожны, хто молад,**
**дайце нам рукі,**
**ў нашы рады, сябры!**

Мал. В. Ціхановіча.

